# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 10 (272) 15—21 сакавіка 1997 г. КОШТ 2000 РУБ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ





# "ВІВАТ, КАРОЛЬ, ВІВАТ!"

Фота Генадзя ЖЫНКОВА
Калаж Наталлі ОВАД

Чарговыя страсці па каралю страсянулі "каралеўскі" тэатр! "А хто ж будзе кіраваць тру пай?" — і сапраўды далёка не рытарычнае пытанне Нормана-Касцюмера прагучала ў гэты вечар з "каранаванай" сцэны. Крытыкам ад тэатра яшчэ доўга будзе мроіцца здань караля — бацькі шматаблічных гамлетаў...

І ўсё ж у тэатральным свеце Беларусі адбылася доўгачаканая падзея: вядомы творчы дуэт Пінігін — Марголін "апранулі" прэм'ерай "Касцюмера" паводле п'есы Рональда Харвуда не толькі знакаміты тэатр... Дарэчы, наш акадэмічны нібы знаходзіцца ў летаргічным сне і перыядычна "прачынаецца" ад прэм'ерных авацый, як гэта было з мінулай бліскучай пастаноўкай Аляксандра Савіцкага "Смерць Кандзіда Тарэлкіна". Шкада толькі, што ніводны з названых спектакляў так і не патрапіў на галоўны тэатральны фестываль краіны "Маладзечанскую сакавіцу-97", які адкрыўся ўчора. Урэшце, сёлетніх адметных прэм'ер сталічных і абласных тэатраў госці фэсту ў Маладзечне не ўбачаць. Далібог, гэта не толькі не каралеўскі, але нават і не прафесійны ход.

Што тычыцца "Касцюмера", дык мы, у сваю чаргу, узяўшы на сябе функцыі галоўнага героя спектакля, вырашылі "апрануць" рэжысёра-пастаноўшчыка Мікалая Пінігіна *(на здымку)* у каралеўскую мантыю.

"Віват, кароль, віват!"

"К"



"Рукапісы не гараць" - сцвярджае наша новая рубрыка "Трыбуна"Л" і яе аўтар.

Стар. 8-9.

◆

№ 10 15 — 21 сакавіка 1997 г.

З ДЫКТАФОНА...

***"Я люблю балет" — чулліва-сентыментальнае гэта прызнанне кожную вясну апошнія пяць гадоў мільгала на афішах Мінска. Дзе-нідзе нават "Я кахаю балет" — ці то ад багацця пачуццяў, ці то ад недасканалага ведання моўных нюансаў. Так называўся фестываль балета, які праводзіў Беларускі харэаграфічны каледж разам са "старэйшым братам" — Нацыянальным тэатрам балета. "Сталенне" фестывалю адбывалася па вельмі крутой узыходзячай. Калі першы абышоўся амаль што разгорнутым справаздачным канцэртам выхаванцаў вучылішча, то апошні, юбілейны — гэта ўжо быў цэлы комплекс мерапрыемстваў, у якім знайшлі месца і свежыя прэм'еры нашых труп, і цікавыя спектаклі запрошаных з-за мяжы артыстаў. У рамках фестываляў адбываліся таксама тэарэтычныя семінары, майстар-класы — тое, што ў іншых творчых колах на бамондавым слэнгу завецца "тусоўка", а на самой справе і з'яўлялася святам харэаграфічнага мастацтва.***

***У гэтым годзе свята не будзе.***

***Натуральнае пытанне "Што здарылася?" прывяло да Людмілы Фёдараўны Каробкінай, дырэктара харэаграфічнага каледжа, якая ўсе пяць гадоў была "душой і сэрцам" фестывалю.***

# ПАМЕРЦІ МАЛАДЫМ?



— Казаць, што здарылася нешта асаблівае, нельга. Я адчула, што гэта нікому не патрэбна, нават тым, хто абавязаны культуру апекаваць.

**— Можна зразумець, што падрыхтоўка і правядзенне на належным узроўні фестывалю ўласнымі сіламі і на энтузіязме становіцца немагчымым, ці не так?**

— Фестываль ніколі не праводзіўся толькі "на энтузіязме". Як і ўсякае масавае мерапрыемства, гэта процьма арганізацыйнай працы і сродкаў. Міністэрства культуры, напрыклад, летась змагло выдзеліць на фестываль 90 мільёнаў-рублёў — а ўвесь фестываль каштаваў 760 мільёнаў.

**— Спонсары?**

— Так, без спонсараў не абысціся. І дарэчы, апошнія гады спонсары дапамагалі ахвотна. Раней, калі я звярталася па дапамогу, можна было пачуць у адказ: "Што? Харэаграфічнае вучылішча? І што ж вы там спяваеце?" Зараз — не. Пачуўшы, што сродкі патрэбны для фестывалю, адразу прапаноўвалі: "Пішыце ліст — дапаможам." Гэта пры тым, што падаткавае заканадаўства не прадугледжвае нават ніякіх ільгот для прадпрыемстваў, якія фінансуюць культуру. Сродкі гэтыя выдзяляюцца за кошт чыстага прыбытку. Нідзе на Захадзе такога няма. Падобная недасканаласць заканадаўства стрымлівае дзейнасць спонсараў і мецэнатаў і замінае нам у іх пошуку.

А што датычыцца ўласных сілаў, то сапраўды, мы ўсё рабілі самі. Аднак "мы" — гэта не толькі каледж, але ў значнай ступені і наш тэатр, і ягоны кіраўнік, Валянцін Мікалаевіч Елізар'еў. Толькі праз ягоны прагляд рабіліся ўсе праграмы ўсіх пяці фестываляў. Толькі пасля ягонага ўхвалення задуманае выходзіла на сцэну.

**— Як бы Вы ацанілі карысць ад правядзення фестываляў?**

— Фестывалі прынеслі шмат карысці менавіта каледжу — не ведаю, што датычыцца горада, народа. Але лічу, што гледачам — дарослым і дзецям — было цікава бачыць усё тое, што паказвалася — новыя спектаклі, іншыя школы, замежных выканаўцаў, хай нават гэта не заўсёды былі зоркі першай велічыні. Наш каледж, наша балетная школа падцягнулася менавіта дзякуючы штогадовым фестывалям. У Мінск прыязджалі як-ніяк сапраўдныя знаўцы балета, стваралася творчае асяроддзе, якое дыктавала высокі мастацкі і выканальніцкі ўзровень. Мы ўсімі сіламі стараліся трымацца гэтага ўзроўню. Да таго ж штогод рыхтавалася цалкам новая праграма. Відавочна, што гэта была дадатковая нагрузка, але ў выніку рыхтаваліся добрыя маладыя салісты для тэатра і з'явіліся лаўрэаты міжнародных конкурсаў нават сярод нашых навучэнцаў.

Таксама разам з фестывалем нарадзілася спецыялізаванае выданне — "Вестник белорусского балета". Яго выдаваў Аляксандр Максаў, мастацтвазнаўца з Масквы, менавіта на падставе матэрыялаў фестываляў. Нягледзячы на невялікі наклад — 200 асобнікаў, "Вестник..." даходзіў да большасці балетных школ. Увогуле гэта было цікавае выданне — цікавае не глянцавымі фота, а зместам.

І яшчэ адзін аспект — пашырэнне міжнародных сувязяў. Сёлета няма фестывалю — але нашы замежныя сябры, што з'явіліся за гэтыя гады, прызвычаіўшыся, паведамляюць ужо, што ўсё роўна прыедуць да нас. Чакаем гасцей з Францыі, Германіі, ЗША, Японіі. Ужо не для фестывалю, але разам з нашымі навучэнцамі рыхтуюць мадэрн-балет французы Андрэас Шміт і Наталі Пернэт, прэм'ера адбудзецца 2 красавіка ў тэатры музкамедыі. Нямецкая мастачка Інгрыд Шаар, для якой балет — галоўная тэма творчасці, прыедзе сама і прывязе кагосьці са сваіх сяброў з германскага балетнага свету. Дарэчы, менавіта яна падаравала нам 135 сваіх графічных работ — арыгіналаў. А два гады таму яна нават не ведала аб існаванні нашай краіны. Ды і ўсе іншаземцы прыязджаюць упершыню звычайна здзіўленымі і насцярожанымі. Каб потым стаць сябрамі. І колькі праз іх яшчэ з'яўляецца сяброў у нашай краіны за мяжой!

**— Мяркуючы па тым, колькі працы і часу патрабавала падрыхтоўка, зараз Вы, мабыць, адчуваеце сябе нуднавата?**

— Трохі так, але працы хапае. І зусім нечакана для мяне з'явілася прапанова Міністэрства культуры прыняць удзел у заснаванні новага нязвыклага для нас праекта. Я страшэнна не хацела б, каб гэтую справу ўзвалілі на мяне, але, калі давядзецца гэтым займацца, "нуднавата" ўжо не будзе. Я не магу рабіць справу дрэнна, напаўсілы. І не ведаю, ці не адаб'ецца гэты новы абавязак на абавязках цяперашніх. Любая сур'ёзная справа патрабуе штодзённай увагі, нельга пачаць — і не закончыць.

**— Мо гэта сапраўды раскоша — штогадовыя фестывалі харэаграфіі? Можа, дастаткова праводзіць іх раз у два ці тры гады?**

— Можа і так. Але вось, напрыклад, другі год мы атрымліваем запрашэнне на ўдзел у фестывалях у Рызе. Іх рыхтуе і праводзіць Літа Берыс, якая была госцем на нашым першым фестывалі. А зараз яна робіць дакладна такі самы, як наш, фестываль балетных школ скандынаўскіх і балтыйскіх дзяржаваў. І робіць штогод — мабыць, не лічыць гэта раскошай? Напэўна, гэта добра?

Апошнія гады былыя "перыферыйныя" балетныя тэатры шукаюць шляхі заявіць аб сабе, вызначыцца. Кіеўскі тэатр заснаваў конкурс імя Сержа Ліфара. У Рызе фестываль кшталту нашага, "Арабеск" у Пярмі, пры славутым пермскім тэатры, і наогул мае высокі рэйтынг міжнароднага балетнага конкурсу. Здавалася, наш фестываль таксама адпавядаў гэтай тэндэнцыі, таксама спрыяў умацаванню славы Мінска як "балетнай" сталіцы і захаванню прэстыжу беларускай харэаграфічнай школы. Адмена фестывалю, што ўжо мае пэўны ўзровень і міжнародную папулярнасць, ці не стане памылкай, выправіць якую будзе няпроста і нятанна?

Пяць гадоў для фестывалю — гэта ўжо не дзяцінства, але і не лядашчасць. Таму традыцыйнае свята мае ўсе падставы "памерці маладым".

**Ігар КЛОКАЎ**

***З гэтага трывіяльнага пытання і пачалася гутарка нашага карэспандэнта Барыса КРЭПАКА са старшынёй Беларускага Саюза мастакоў, вядомым скульптарам Генадзем БУРАЛКІНЫМ.***

— Пытанне цалкам рытарычнае. Але адкажу: кепска!

**— Сапраўды, у кулуарах кажуць, іншы раз нават са зласлівасцю, што Саюз дажывае свае апошнія месяцы, што гэта сістэма "сталінскага" ўзору не жыццяздольная і гэтак далей...**

— Я разумею, пра што ідзе гаворка. Але ўсё гэта лухта. Беларускі Саюз мастакоў сёння неабходны прафесіяналам як паветра. Нягледзячы на велізарныя праблемы, сябар Саюза мае надзею і магчымасць атрымаць творчую майстэрню і льготы на яе арэнду, арганізоўваць бясплатна сваю персанальную выставу, прыняць удзел у пленэрах, не кажучы ўжо пра іншыя прывілеі, сацыяльныя і маральныя.

**— Аднак, сітуацыя на сёння працягвае заставацца архіскладанай...**

— Так. На самаразвіццё Саюза мы ад мастацка-вытворчых прадпрыемстваў сёння адлічэнняў практычна не атрымліваем. Мяркую, калі ў бліжэйшы час не будзе падпісаны Указ прэзідэнта пра падтрымку творчых саюзаў, дык будзе яшчэ горш. І не толькі нам. Бо, каб развівацца, патрэбныя грошы. А Саюз мастакоў не мае маральнага права браць грошы са сваіх прадпрыемстваў звыш тых стопрацэнтных падаткаў, якія ідуць у дзяржбюджэт...

**— Але ж раней, 5 — 6 гадоў таму, Беларускі Саюз мастакоў быў вызвалены ад падаткаў на прыбытак, і 10 — 15 працэнтаў гэтага прыбытку маглі выдаткоўвацца на статутную дзейнасць. А што такое статутная дзейнасць? Гэта наша штодзённае жыццё: прапаганда выяўленчага мастацтва, выставачная дзейнасць, арганізацыя карцінных галерэй, пленэраў, сімпозіумаў, матэрыяльная падтрымка мастакоў-ветэранаў, рамонт памяшканняў і г.д.**

— Усё гэта сапраўды так. Але сёння становішча некалькі іншае. Калі ў 1995 годзе мы заплацілі дзяржаве 1 мільярд 200 мільёнаў рублёў падаткаў, дык у 96-м — ужо 5 мільярдаў 200 мільёнаў рублёў. Вось і лічы, нават з улікам інфляцыі, што гэта такое. Вось прыходзяць да мяне мастакі, просяць дапамагчы. І бачу ў іхніх вачах такі сум, што робіцца ніякавата. Я разумею, што многія з іх, асабліва са старэйшага пакалення, так разгубіліся ў гэтым бурлівым моры, што страцілі глебу пад нагамі. А як і чым ім дапамагчы? Дапамагаем, як можам. Вызвалілі ўсіх ветэранаў вайны і працы ад аплаты майстэрань...

**— Так, рынак сёння патрабуе ад мастакоў іншай арыентацыі...**

# "АД ІХ, АД ПАСАЖЫРАЎ, ТЭАТР НЕЗАЛЕЖНЫ"...

***За рознымі часамі ў Магілёве ставіліся да тэатра неаднолькава. Больш за сто гадоў таму гарадская інтэлігенцыя даўмелася да таго, што тэатр проста пабудавалі. У 1929 стварылі праект з сярпом і молатам на 1200 месцаў, балазе, надта дарагі, таму Стары тэатр ацалеў. Сваю спадчыну (перамена ў трупе) пакінула вайна. Пачатак васьмідзесятых патыхаў эстэтычным пераваротам, звязаным з імёнамі рэжысёраў Міроненкі і Маслюка. Пачатак дзевяностых — выступленнем трупы, якое на афіцыйнай мове называецца дэманстрацыяй: артысты патрабавалі не выкідаць іх на вуліцу разам са спектаклямі падчас рэканструкцыі стогадовае будыніны, а прытуліць хоць бы ў Доме палітасветы. Прытуленыя да сёння выпускаюць спектаклі і, нягледзячы на пэўную эстэтычную неўразумеласць (сцены палітасветныя), ставяць сабе мастацкія задачы. Натуральна, што першае пытанне да мастацкага кіраўніка Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра Віктара КУРЖАЛАВА вынікнула пра тое самае:***

**— Віктар, а што для горада тэатр сёння?**

— Усё яшчэ або пакуль яшчэ — атрыбут. Мала хто асэнсоўвае, дзе, для чаго такая цацка ў самым гарадскім цэнтры. Праўда, кожны зацікаўлены ў ім па-свойму...

**— У кожнага з нас да горада Магілёва ўласны эстэтычны рахунак у звязку з тэатрам. Ён замінае жыць?**

— А я яго не бачу, горад. Я цяпер жыву побач з тэатрам, гляджу з кабінета: тэатр насупраць, рэстаўруецца, чакае!

**— Аднойчы Аляксандр Дольнікаў, адзін з былых галоўных рэжысёраў, вывеў мяне на гаўбец гэтай кватэры (у ёй жа ўсе кіраўнікі тэатра жывуць па чарзе, я ж ведаю) і паказаў шэраг аўто перад Домам палітасветы: маўляў, гляджу ды ўяўляю, што ўсе яны — на прэм'еру! Так і марылі разам. На гаўбцы.**

— Я ўжо, дзякаваць Богу, нават сваіх, тэатральных, адвучыў ад захаплення: вох, маўляў, колькі гледачоў! А хто сказаў, што іх не павінна быць? Мы ж усё перакулілі дагары нагамі! Вох, глядач! Я ніколі не зважаў, ці шмат іх ідзе да тэатра ўвечары. Мяне займала іншае: ці запаленыя ліхтары ля пад'езда. Заўжды выходзіў з тэатра, пераходзіў на іншы бок вуліцы, пераконваўся: запаленыя. Тэатр заўважны. Усё асветлена, усё ззяе. Мне вельмі важна цяпер выхоўваць у тэатральных людзях годную адцягненасць да чаго б там ні было вакол тэатра. Годнасць! Я чамусьці перакананы, што такая годная адцягненасць патрэбна і тэатру, і гораду.

**— Годная адцягненасць?**

— Бо ў **тэатр** мусяць прыходзіць. А не тэатр — па гледачах лётаць. Не трэба вяшчальнікаў! У нас калісьці была праграма "Гасцюем у бабы Насты", мы выбягалі на гаўбец старога тэатра і клікалі да сябе, а па бліжэйшых вулках бегала тэатральная Баба Яга і кожнага ўпадабанка цягнула за крысо на спектакль. Калі гэткае зазыванне надарылася ўпершыню, а я гэта добра памятаю, спыніўся рэйсавы аўтобус і пасажыры (кожны са сваім недаўменнем на твары) доўга пазіралі ў вокны. Жудліва. Не трэба ў тэатр латвіць, клікаць. У мяне таемная думка: ад іх, ад пасажыраў, тэатр незалежны. Тэатр — будзе.

**— І незалежна ад таго, ці пойдуць гэтыя пасажыры ў тэатр, мы, людзі тэатральныя, будзем? Са сваім эстэтычным жыццём? Як бы нас ні мардавала антыэстэтыка побыту?**

— Я не люблю тэатра незразумелага, дзе кожны сам дзеля сябе. Я сам для сябе не магу працаваць, не разумею калегаў, якія кажуць, маўляў, галоўнае, што тэатр патрэбны мне асабіста. Альбо "я так хачу". Я ў сваіх "хачу" заўжды бачу аблічча... Акцёры з залы адчуваюць гледачоў як адзін вялікі твар. Нябожчыца Барысава (актрыса, дырэктар тэатра. — **Ж.Л.**) казала, што пачуццё гледача прыйшло да яе гадоў праз шаснаццаць пасля таго, як яна прыйшла ў тэатр: пачуццё залы. З'яўляецца нейкі чалавек, які цябе праследуе, перайм[ае] ўсё жыццё. У яго цьмяныя абрысы, але яго адчуваеш як характар. Для і дзеля яго ставіш, робіш, паўтараеш. Распавесці пра яго немагчыма. Можна хіба адчуць.



# ЯК ЖЫВЕЦЦА?..

— Многія здзіўляюцца, чаму творы аднаго мастака ахвотна набываюць, а другога, здавалася б, больш таленавітага, які мае безліч заслуг, — не? Ды таму, што змяніўся сам пакупнік! Раней быў адзін заказчык — дзяржава. Яна і набывала творы мастацтва для музеяў, палацаў культуры, прамысловых і іншых прадпрыемстваў, дзяржустаноў, для якіх прыярытэтам з'яўлялася ідэалагічная значнасць твора. Сёння кан'юнктура рынка іншая. Тады заказчык не выбіраў мастака: скажам, паступала на мастацкі камбінат замова, камісія аддавала яе мастаку, і замоўцы было ўсё роўна, хто выканае працу...



**— Іншымі словамі, замоўца прымаў тое, што ёсць?**

— Так. Пасля таго, як мастацкі савет вызначыў якасць працы. Сёння ж заказчык сам выбірае мастака. А калі ўлічыць, што ў дзяржаўнага прадпрыемства няма грошай нават на зарплату сваім рабочым, не кажучы ўжо пра аднаўленне вытворчасці, дык яму мастак наогул не патрэбны. І такім чынам " стваральнік прыгожага" аказаўся самай неабароненай катэгорыяй грамадзян у нашай краіне. Мы неаднаразова кансультаваліся ў Дзяржаўным камітэце па працы: ці мае права мастак звярнуцца на біржу працы як беспрацоўны? Адказваюць, што не. Бо, маўляў, ён працуе па дамовах, як чалавек свабоднай прафесіі. І ў іхніх спісах мастакоў няма. Такім чынам, адказ просты: мяняйце прафесію!

**— Хутка павінен быць прыняты ў другім чытанні Закон аб творчых саюзах, дзе дакладна вызначаны статус творчага дзеяча і ягоная сацыяльная абарона...**

— Я вельмі спадзяюся на гэты Закон...

**— Ці не падменіць ён прыняты ўжо Закон аб грамадскіх аб'яднаннях?**

— Гэта розныя рэчы. Паводле сваёй спецыфікі прафесійныя творчыя саюзы — гэта зусім іншае, чым грамадскія аб'яднанні і фонды. Гэта саюзы, якія валодаюць магутнай матэрыяльнай базай. Нават Міністэрства культуры не мае той базы, дзе б мастак мог выканаць усе віды работ, у тым ліку — манументальны роспіс, вітраж, мазаіку, габелен альбо мемарыял...

**— Колькі такіх прадпрыемстваў знаходзіцца ва ўласнасці БСМ?**

— Пятнаццаць, уключаючы карцінныя галерэі, выставачныя залы, мастацкія камбінаты ў Мінску, Барысаве, Бабруйску і абласных цэнтрах. Дарэчы, такіх унікальных камбінатаў на Захадзе няма. Што б ні казалі, але на гэтых камбінатах нашыя мастакі выконвалі найбуйнейшыя творы манументальнага і станковага мастацтва, пачынаючы ад Хатыні і Кургана Славы і заканчваючы "Габеленам стагоддзя". З гэтай нагоды я ўзгадваю словы майго настаўніка Андрэя Бембеля: "Мастака ствараюць замовы". Сёння гэтая сістэма карэнна змянілася, бо ідзе складаны працэс змянення самой псіхалогіі мастака. Для адных — гранічна балюча, для іншых — нармальна. Але апошніх, на жаль, няшмат...

**— І ўсё ж, колькі мастакоў жывуць сёння "нармальна"?**

— З 1024 сяброў БСМ — прыблізна 50 — 60 чалавек, тых, хто мае магчымасць прадаваць свае творы за мяжу і на Беларусі...

**— Ці зацверджанае новае Палажэнне аб вывазе твораў за мяжу? Я ведаю, што мастак меў права беспадаткава вывезці і прадаць толькі пяць сваіх твораў. Калі больш — тады ён павінен заплаціць стопрацэнтны падатак за кожны твор...**

— Палажэнне дасюль не зацверджанае, і гэта — нонсенс! У суседніх краінах, у тым ліку ў Расіі і Прыбалтыцы, аўтар можа вывозіць за мяжу колькі заўгодна сваіх уласных твораў без падаткаў... Мы ж і па сёння карыстаемся старым Палажэннем аб вывазе і ўвозе твораў, што прынята яшчэ ў часы СССР, і нават пячатка на дакуменце аб дазволе на вываз дасюль мае гістарычную абрэвіятуру "СССР"! Іншымі словамі, больш за пяць гадоў круціцца ў Міністэрстве культуры карусель па распрацоўцы новага Палажэння. Магчыма, для чыноўнікаў гэта і зручна — "не дазваляць" і ўсё... Такія традыцыі вельмі жыццяздольныя...

**— На Захадзе існуе вельмі добрая сістэма Internet. Чаму Беларускі Саюз мастакоў дасюль не ўвайшоў у гэтую сістэму?**

— Нашыя галерэі пакуль што не ў стане "раскручваць" мастака, рабіць яму імідж. На Захадзе існуюць жорсткія ўмовы: калі ты падпісаў з галерэяй дамову на пяць гадоў, ты на працягу гэтага часу не маеш права прадаць свой твор іншым галерэям. І яшчэ. У нас у салонах-крамах прадаецца ўсё. А там галерэі працуюць толькі па пэўных відах мастацкай дзейнасці. Калі яны экспануюць, скажам, нацюрморты з кветкамі, дык пейзажам там няма месца, калі авангард — дык "класіцы" туды шляху не будзе. І наогул, у нас паняцце "галерэя" — іншае. Галерэя — гэта калі ты прыходзіш, глядзіш, набываеш. А там ёсць галерэі, якія недасягальныя для простага наведніка. Вось яны і працуюць у сістэме Internet!

**— Распавядзі больш падрабязна, калі ласка, што гэта азначае?**

— Скажам, галерэя выдае каталог жывапісу мастака і запісвае яго на лазерныя дыскі (тут і біяграфія, і каталожныя дадзеныя, і ўдзел у выставах і г.д.). Потым гэтыя касеты прадаюцца ў розных краінах свету. Іх набываюць тыя, хто цікавіцца дадзеным накірункам у мастацтве. І калі мастак зацікавіў пакупніка, дык ён адразу ж можа атрымаць запрашэнне ў ягоную краіну альбо прапанову аб набыцці твора. Інакш кажучы, на адным такім дыску можна запісаць усіх мастакоў Беларусі... Дарэчы, мастак меў бы права прадаваць і тыя свае творы, якія па розных прычынах аказаліся незапатрабаванымі дзяржавай, у тым ліку і нацыянальнымі мастацкімі музеямі.

**— Дык у чым жа справа?**

— З розных прычын мы пакуль што не падключаныя да гэтай інфармацыйнай сеткі. Зараз вядзем перамовы з маскоўскай фірмай "Артинфо", якая займаецца расійскімі мастакамі. Магчыма, яны дапамогуць і нам, і тады ўсе ў свеце даведаюцца пра нас...

**— І тым не менш, калі не будзе дзяржаўнай праграмы падтрымкі творчых работнікаў, пачынаючы ад замены састарэлых тэхналогій на мастацкіх камбінатах на новыя і заканчваючы стварэннем інвестыцыйных фондаў, Саюзу не выжыць...**

— Гэта сапраўды так. Сёння мы жывем нібыта ў часы "продразвёрсткі" — усё аддаем у выглядзе падаткаў, а назад не атрымліваем нічога. Праўда, мы можам, безумоўна, ставіць пытанне аб продажы часткі маёмасці з аўкцыёна і атрыманні грошай у фонд дапамогі мастакам.

**— Тым самым Саюз мог бы дапамагчы пенсіянерам і даплаціць троху да іхніх жабрацкіх пенсій...**

— І вызваліць ад платы за творчыя майстэрні, і набываць творы з выстаў, і нават пабудаваць некалькі майстэрань альбо кватэр...

**— Колькі выстаў наладжвае сёння Саюз мастакоў?**

— Па краіне прыблізна 130 — 150 на год. І гэта — за ўласныя грошы, гэта значыць, за грошы, заробленыя самімі мастакамі. Але дзяржава ад нас увесь час адварочваецца.

**— Чаму ж?**

— Прычыны розныя. Адна з іх, мне здаецца, у тым, што многія, у прыватнасці кіраўнікі дзяржавы, наогул не разумеюць, што такое творчы саюз.

**— І ўсё ж, як бы ні было цяжка, Саюз існуе і шмат робіць і для мастакоў, і для мастацтва, і для ўсёй нацыянальнай культуры цалкам...**

— Не кажучы ўжо пра тое, што Саюз усё ж карыстаецца аўтарытэтам не толькі ва ўласнай краіне. Адзначу, што мы ўвайшлі ў Міжнародную асацыяцыю мастакоў пры штаб-кватэры ЮНЕСКО ў Парыжы. Мы ўваходзім у Міжнародную канфедэрацыю творчых саюзаў краін СНД, якая ўжо наладзіла дзве буйныя мастацкія выставы. Гэта "Сучаснае мастацтва Беларусі" ў Маскве ў Цэнтральным доме мастака і Біенале графікі на пачатку 1997 года, дзе нашыя мастакі атрымалі самыя высокія ацэнкі. Акрамя гэтага, на міжнароднай выставе, прысвечанай 50-годдзю Перамогі, Міхаіл Савіцкі атрымаў Гран-пры, а Віктар Грамыка — заахвочвальную прэмію за твор на ваенную тэму. Нашыя мастакі значна пашырылі геаграфію міжнародных выстаў, пачынаючы ад Масквы да Парыжа, ад Варшавы да Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі і ЗША...

**— Не кажучы ўжо пра тое, што многія імёны нашых майстроў добра вядомыя далёка за межамі нашай краіны...**

— Карацей, калі Саюз мастакоў разваліцца, усім будзе кепска: і мастаку як творцы, і грамадзяніну краіны, і самой краіне, якая страціць агромністы культурны пласт... Пра гэта мы будзем, безумоўна, неўзабаве гутарыць на творчай канферэнцыі. Аднак, ці дасць нам гэта практычныя вынікі? Ці зразумеюць нашыя кіраўнікі, наш урад, наш новы парламент, што ролю выяўленчага мастацтва ў грамадстве пераацаніць ніяк нельга. Калі знікне культура, знікне і дзяржава. Гэта аксіёма. Але ці для ўсіх?..



# АУ-У, ПАКУПНІК!

***11 сакавіка ў цэнтры Мінска на праспекце Францішка Скарыны, 12, адкрылася новая галерэя "Мастацтва" Беларускага Саюза мастакоў з прэзентацыяй выставы твораў акадэмікаў жывапісу і графікі грамадскай Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва. З гэтай нагоды наш карэспандэнт сустрэўся з дырэктарам галерэі Аленай ЛАГОЎСКАЙ.***

**— Алена Васілеўна, што ўяўляе сабой галерэя "Мастацтва"?**

— У прынцыпе, гэтая галерэя дзейнічае з 1994 года. Да гэтага, як вядома, тут знаходзіўся Цэнтральны мастацкі салон-крама. Аднак нашыя мастакі не надта ахвотна прыносілі сюды свае творы, лічачы салон-краму больш гандлёвай кропкай, чым выставачнай залай. Тады мы нават паспрабавалі зрабіць прэзентацыю галерэі з выставай гродзенскіх мастакоў. Але справа не скранулася з месца... І мы прыйшлі да высновы, што тут патрэбная ўсё ж такі невялікая выставачная зала (разам з той, што ўжо існуе), дзе маглі б экспанавацца персанальныя і групавыя выставы-продажы твораў вядомых і не вельмі вядомых мастакоў. Такая вось выстава-продаж, першая ў гэтым шэрагу, адкрылася зараз...

**— І хто ўзяў у ёй удзел?**

— Альшэўскі, Вішнеўскі, Зінкевіч, Савіч, Славук, Тоўсцік, Фелікс Янушкевіч. Прадстаўлена і адна карціна Міколы Селешчука... Пасля гэтых твораў мяркуем паказаць скульптуру і графіку Генадзя Буралкіна, потым — мастакоў з Акадэміі мастацтваў...

**— Які гандлёвы абарот галерэі?**

— Летась мы прадавалі твораў прыкладна на 350 мільёнаў рублёў штомесяц.

**— І хто пакупнікі?**

— Набываюць, у асноўным, па безнаяўным разліку розныя фірмы, дзяржаўныя і грамадскія ўстановы і арганізацыі. Ёсць і замежныя пакупнікі, але іх паменела.

**— Які сярэдні кошт твораў?**

— Самы распаўсюджаны — ад 5 да 10 мільёнаў рублёў, але ёсць і больш дарагія рэчы. Дарэчы, не так даўно адзін замежнік набыў нацюрморт Вячаслава Валынца ажно за 46 мільёнаў рублёў!

**— Якія адлічэнні Вы робіце свайму фундатару — Беларускаму Саюзу мастакоў?**

— Тры мільёны рублёў штомесяц, згодна з дамовай. Калі, безумоўна, ёсць прыбытак. Звыш аўтарскага кошту твора ў нас дзейнічае надбаўка — 30 працэнтаў. Гэта значыць, калі аўтар ацаніў свой твор у 6 мільёнаў рублёў, дык мы прадаем яго за 7 мільёнаў 800 тысяч рублёў , каб кампенсаваць свае выдаткі...

**— Ну што ж, жадаю галерэі доўгага жыцця і поспехаў!**

**Са спадарыняй Аленай гутарыў Барыс КРЭПАК**

**P.S.** На нядаўна выдадзеным плакаце галерэі можна прачытаць: "Галерэя "Мастацтва" прадстаўляе персанальныя і калектыўныя выставы твораў мастакоў, чыя творчасць ужо сёння з'яўляецца неад'емнай часткай нацыянальнай культуры беларускага народа. Набываючы ў нас для сваіх калекцый арыгінальныя творы жывапісу, графікі, скульптуры і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, вы ўдзельнічаеце ў працэсе лучнасці сучаснага еўрапейскага мастацтва з мастацтвам надыходзячага XXI стагоддзя. Сардэчна запрашаем!"




**— Бальшыня вашых сённяшніх пастановак — камерныя, разлічаныя на глядацкую любоў да тэатральных звадаў, да сюжэтных паваротак, да пачуццяў і характарнасці...**

— Гэта перадусім выклікана двума правіламі, паводле якіх мы пастанавілі сабе выбіраць рэпертуар: рабіце што хочаце (каб толькі рэжысёр і акцёры хацелі), а не тое, што трэба (значыць тое, чаго жадае мастацкая рада тэатра). Адсюль з'явіўся "Рычард III" Шэкспіра, "Сніў я сад..." паводле Чэхава, "Каб я ведала, што ты прыйдзеш..." Слэйда. Другое правіла... Разумееце, я быў незалежным чалавекам. Я быў дырэктарам камерцыйнай фірмы. Я зарокся ставіць і тым больш іграць. Я вырашыў скончыць са сваім тэатральным мінулым. І... папаўся. Папрасілі дапамагчы. Зрабіць спектакль у жанры показкі (анекдота). На гэтыя показкі я ўздзеўся, як на зазубень, як на прынаду. Але з умоваю — даводзім спектакль да такой ступені, каб перад усімі здаволіцца самім. Самім! Яшчэ пятнаццаць гадоў таму ў ГИТИСе я ўсё разумеў пра нашы пастаянныя тэатральныя крызісы: аднакурснікі былі з Уладзівастока, з Пецярбурга, са Львова... Не ад палітыкі быў несвабодны тэатр, не, не ад палітыкі! Ад... неабавязковасці, ад няпэўнасці эстэтычнай, ці што... Мо тэатр мусіць папрацаваць паводле мадэлі кінастудыі, — праектамі? Калі вакол спектакля збіраецца творчае аб'яднанне: людзі, якія шалёна і вельмі сур'ёзна прагнуць зрабіць спектакль! Агораць, ахапіць усё: ад пастаноўкі да продажу! Праект у нашым выпадку азначае пэўнасць... канцовасць. Канцовасць выніку: мы зрабілі ўсё, што хацелі (а не што мусілі, умелі і да т.п.). Мы — задаволеныя і здаволеныя! Бо бальшыня з нас цяпер проста вар'яцее ад глупства на абмеркаваннях спектакля, на паказах... Магілёўская трупа стала пачувацца тэатрам пасля, мовім так, творчай рэарганізацыі... афішы: з'явіўся мюзікл, показкі, Шэкспір, з якімі акцёры нарэшце запатрабаваныя.. па-акцёрску. Мастацкая рада гуляе з рэпертуарам як з канструктарам, — і гэта так па-тэатральнаму!

**— Між тым крытыкі ў Мінску назвалі вашага "Рычарда III" правалам ледзь не аднагалосна.**

— У Мінску, на правале, мы пачулі пра спектакль усё, што самі пра яго даўно ведалі, але мусілі сядзець і слухаць. А ўсё чаму? А ўсё таму, што ў нас ніколі (да нядаўняга часу) не было магчымасці ўсё давесці да ладу, да канца, да такой ступені, каб самім сказаць: усё. Мы задаволеныя. Тэатр, трупа, — мы ўсім пакуль чымсьці абавязаныя, а я не хачу, каб нас скручвалі пазыкі ды абавязак. Каб тэатр быў абавязаны пільнаваць — прыйшоў горад на спектакль ці не.

**— З акцёрамі мне выпала пагутарыць пра тое, што бракуе часу паводле школы выгадаваць ролю. Штосьці паспеў, назбіраў, назапасіў перад прэм'ерай, выйшаў, паказаўся — і будзь задаволены. А што не паспеў, дык з тым спазніўся назаўжды.**

— Але ж ці не тое самае было і ў адметныя васьмідзесятыя: спытайцеся ў мяне, колькі Маслюк рабіў сваіх "Тутэйшых"?

**— Пытаюся: колькі Маслюк рабіў "Тутэйшых"?**

— Два тыдні. Прапрацоўваў месяцамі, але на сцэне — два тыдні. Такое было жаданне — зрабіць, стварыць, давесці. Не ад фізічнага часу залежыць падрыхтаванасць! Першая частка спектакля — "Адвечная песня". Наша, магілёўская адвечная песня — дарога з акцёрскага інтэрната да тэатра. Пакуль ідзеш, дык мінаеш нейкія прыродныя і гістарычныя паясы: з гары ў раўчук, з горада ў вёску, праз могілкі, потым — Падніколькі манастыр, штодня глядзіш на купалы, на вялікую нізіну, якая адкрываецца на супрацьлеглым баку... Ёсць пастаянная нагода паразважаць над вечным. Пачынаеш свой шлях у тэатр з могілак; калісьці было лацвей праставаць праз яўрэйскія, потым хадзілі і па рускіх: неяк нашы артысты знайшлі магілу немаўляці на прозвішча Пушкін... У правінцыі вельмі чапляешся за гісторыю.

**— І за дваццаць пяць хвілін дарогі наведвалі самыя вырашальныя для мастацтва думкі: што паставіць, што ўчыніць?**

— Але. Цяпер мы ходзім кожны сваёй дарогай (перасяліліся), а тады — разам. Цяпер мы разам... чакаем. Не кажам уголас, але жывем трывожным адчуваннем: хутчэй бы дахаты! Хутчэй бы скончылася рэканструкцыя будынка, — там усё зробіцца натуральным, нармальным. І таму, калі хтосьці сёння вымагае з мяне **тэатра** (у межах Дома палітасветы), я спасылаюся на сваю чынавенскую тэорыю: тэатр, што там, у будынку, што тут, у трупе, мінае перыяд рэстаўрацыі. Трэба быць вартымі свайго дома...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

**Фота Аляксея МАЦЮША**

*Паводле ненадрукаванага ліста*

# У "НЕЦЯПЛІЧНЫХ" УМОВАХ...

Не так даўно з рэдак цыйнай поштай у "Культуру" прыйшоў адкрыты ліст з Гомельскага раёна. Жыхары населеных пунктаў Бярозкі, Улукоўе, Пермога, Юбілейны, Галавінцы, Іпуць і інш. — усяго 104 подпісы — занепакоена паведамлялі пра лёс свайго адзінага асяродка культуры на ўсю акругу, дзе пражывае амаль пяць тысяч чалавек. Справа ў тым, што саўгаснае кіраўніцтва вырашыла пашырыць свае адміністрацыйныя плошчы за кошт... другога паверха Дома культуры, дзе працуюць шматлікія дзіцячыя гурткі і бібліятэка з чытальнай залай. Як паведамляюць аўтары ліста, з'яўлення гэтага Дома культуры мясцовы люд чакаў ажно пятнаццаць гадоў...

Перад тым як выправіць нашага карэспандэнта ў камандзіроўку, мы патэлефанавалі ў Гомель да начальніка абласнога ўпраўлення культуры Алега Раманавіча Маісеенкі. І раптам пачулі прыемную навіну: раённы аддзел культуры, можна сказаць, "адбіў" Дом культуры саўгаса "Цяплічны", узяўшы яго на свой баланс. Гэта, безумоўна, перамога! Але факт застаецца фактам: хтосьці яшчэ культуру спрабуе паставіць у "нецяплічныя" ўмовы.



## ЛЯЛЬКІ І ЛЮДЗІ: БРЭСЦКАЯ ВЕРСІЯ

Брэсцкі тэатр лялек паказаў мінскім гледачам свой новы спектакль — "Бусляня і Пудзіла". Аўтаркі сцэнарыя гэтай "сумнай гісторыі" аб сапраўдным сяброўстве і каханні — Г.Крчулава і Л.Лапейская. А сама п'еса з поспехам абышла ўжо многія тэатры лялек Усходняй Еўропы.

Беларускі рэжысёр-пастаноўшчык Дзмітрый Нуянзін прапанаваў сваю — лірычную версію прачытання вядомай п'есы. Бусляня і Пудзіла сталі вобразамі, якія існуюць адначасова як бы ў двух планах: у казцы для дзяцей (лялечныя персанажы) і ў меладраме для дарослых (акцёры, што водзяць лялькі). Цікава, што ў праграмцы для спектакля пазначаны толькі дзве дзейныя асобы і выканаўцы — Яна і Ён. Яе рамантычна сыграла вядучая актрыса Брэсцкага тэатра лялек Тамара Тэвасян, а Яго — самы малады акцёр тэатра Ігар Верста. У спектаклі гучыць чароўная музыка Антоніо Вівальдзі. Мастак Віталь Трафімаў удала выкарыстаў дамінантнае гучанне чырвонага колеру на тле чорнага і белага. На паказе прысутнічала здымачная група адной з праграм Беларускага тэлебачання.

Пасля спектакля адбылося яго шчырае абмеркаванне.

Застаецца дадаць, што ўсё гэта мерапрыемства праходзіла ў рамках работы Творчай лабараторыі тэатраў лялек Беларусі.

**Людка СІЛЬНОВА**

# АЎТАПАРТРЭТ У "ІНТЭР'ЕРЫ" ГОРАДА

У Акадэміі мастацтваў прайшла выстава фотамастака Міхаіла Баразны "Адзін у горадзе".

Аўтар паспрабаваў стварыць своеасаблівую фотагісторыю Мінска ў сваім успрыманні "праз мазаічныя менскія ўражанні". Мы жывём у гэтым горадзе, але не бачым яго, не ведаем, не заўважаем яго прыгажосці. Мы некуды бяжым, спяшаемся... Міхаіл Баразна прапаноўвае нам спыніцца, аддыхацца і паўглядацца ў архітэктуру "менскага места".

Сюжэты здымкаў выходзяць за межы фотапаперы, прымушаюць углядацца і ўдумвацца, яны жывуць уласным жыццём, якое ім надаў сваім лёгкім подыхам фотамастак. І іх жыццё непарыўна звязана з лёсам мастака, бо ён любіць свой горад з дзяцінства.



Фота Міхаіла Баразны



Фота Міхаіла Баразны

У сваім маніфесце аўтар праекта заяўляе: "Гарадскі алагічны вір фактураў і формаў прыцягвае маю ўвагу, інспіруе нерэальныя вобразы, але, ведаю — яны выключна тутэйшыя, дзе б я ні быў, найбагацейшыя на адценні. Нічога падобнага нідзе не знаходжу, не адчуваю".

Міхаіл Баразна марыць пабудаваць Новы горад, у якім прахожыя дэманстравалі б адзін аднаму не халодную абыякавасць, а шчырыя ўсмешкі. Ад нас таксама залежыць, ці спраўдзіцца мара фотамастака.

**Міхась БАШУРА**

## СТАРЭЙШЫ НА БЕЛАРУСІ

Так кажуць пра Запольскі народны хор Карэліцкага раёна. Сапраўды, 70 гадоў існавання калектыву даюць на гэта самыя важкія падставы. Захаваўшы сябе ў самыя жорсткія, самыя неспрыяльныя для песні часіны — хор існаваў нават падчас польскай акупацыі, — харавы калектыў заўсёды прапагандаваў беларускую народную песню. Прапагандаваў і робіць гэта зараз. Запольскі народны хор неаднаразова быў дыпламантам Усесаюзных фестываляў самадзейнай мастацкай творчасці, паспяхова прымаў удзел у рэспубліканскіх і абласных аглядах мастацкай самадзейнасці. 21 сакавіка ў Запольскім сельскім Доме культуры адбудзецца святочны вечар. На вечарыне будзе выступаць хор-юбіляр. Наша газета горача віншуе народны калектыў з юбілеем, жадае плёну і поспехаў на ніве беларускай культуры.



Мноства цікавых дакументаў сабрала за некалькі гадоў свайго існавання экспазіцыя "Боль Чарнобыля", што адкрыта ў Краснапольскім гісторыка-этнаграфічным музеі. Яна пастаянна папаўняецца новымі матэрыяламі, адбором якіх займаецца дырэктар музея Віктар Лазовік, захавальнік фондаў Таццяна Коршыкава і мастак-афарміцель Таццяна Аўраменка (на здымку).

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

# У МАСТАЦТВЕ НЯМА ПРАВІНЦЫІ...

На фоне пышных закрытых прэзентацый мастацкіх выставаў апошняга часу, аздобленых крутой рэкламай і шыкоўнымі банкетамі, адкрыццё выставы акварэляў магілёўчаніна Фёдара Кісялёва выглядала даволі сціпла, нават будзённа. Але ўжо пасля першага беглага агляду экспазіцыі, якая была разгорнута ў мінскім Палацы мастацтва, можна было з упэўненасцю сказаць, што гэтая выстава не ардынарная. Яна вылучалася высокім выканальніцкім майстэрствам і самабытнасцю творцы. Быць можа, такому меркаванню садзейнічаў той факт, што не часта сталічны глядач бачыць персанальныя выставы мастакоў з абласных арганізацый Беларускага Саюза мастакоў, а можа, таму, што працуюць яны ва ўмовах менш падпарадкаваных кан'юнктурным захадам і модным плыням, тым не менш выстава Ф.Кісялёва ўнесла ў мастацкі клімат Мінска павета свежасці, лёгкасці, навізны.

Асноўны сюжэтна-тэматычны накірунак яго творчасці вызначаюць лірычныя вобразы роднага краю. Ландшафтныя матывы Падняпроўя і Паазер'я ў работах мастака набываюць эпічнае гучанне, заварожваючы гледача мяккім, складаным каларытам і самакаштоўнасцю акварэльных эфектаў. Але гэтым яго мастацкія інтарэсы далёка не абмяжоўваюцца. Імкненне да пазнання свету правяло яго па дарогах Карэліі, Сібіры, Закарпацця, Паўночнага Каўказа і Заходняй Еўропы. Віртуозная тэхніка пісьма: вольныя расцёкі вадзяной фарбы, размывы, "адліпы" — удала адпавядае экзатычнаму характару рамантычных матываў Італіі, Францыі, Польшчы. Манументальнасцю кампазіцый звяртае на сябе ўвагу нізка аркушаў, якія прысвечаны гісторыка-архітэктурным помнікам Беларусі. І як быццам ілюструючы думку, што духоўнае ўзвышэнне чалавека пачынаецца з чысцюткіх крыніц роднага дома, мілых сэрцу куточкаў бацькаўшчыны, мастак піша багата матываў амаль што бытавога жанру. Асаблівай цеплынёй і шчырасцю пачуццяў прываблiваюць аркушы "Вясновы матыў", "Каля студні", якія навеяны ўспамінамі вясковага дзяцінства, што прайшло ў Клімавіцкім раёне Магілёўшчыны. Мастак успрымае жыццё ва ўсёй яго разнастайнасці, таму натуральна, што тэмы Чарнобыльскай трагедыі і экалагічнай небяспекі не маглі не крануць чулае мастакоўскае сэрца. Не толькі асобныя работы, але і ў пэўнай ступені агульнае эмацыйнае гучанне выставы пранізвае мелодыя журбы і смутку. Сімвалічнасць выяў у спалучэнні з дакладна знойдзенай рытмічнай арганізацыяй кампазіцыі, экспрэсіўная стылістыка выяўленчай мовы вылучае з агульнага шэрагу шэраг работ аркушы "Воран над вёскай", "Зона смутку", "Каля дарогі".

Выстава, прымеркаваная да пяцідзесяцігадовага юбілею мастака, увабрала ў сябе творы, храналагічна абмежаваныя апошнімі пяццю-шасцю гадамі. Але яны выразна адлюстроўваюць той няпросты творчы шлях поспехаў і няўдач, якім прайшоў мастак за 25 гадоў творчай дзейнасці. Не ў меншай ступені творы дэманструюць і вялікі, яшчэ не выкарыстаны творчы патэнцыял мастака.

**Уладзімір РЫНКЕВІЧ**





*На здымках:*
*Ф.Кісялёў. "Раніца на Сожы".*
*Ф.Кісялёў. "Паводка на рацэ Асцёра".*
*Ф.Кісялёў. "Магілёў. 20-я гады".*

17.40 "Клубнічка".
18.10 Момант ісціны.
18.40 Расіяне.
19.35 Сам сабе рэжысёр.
20.15 "Санта-Барбара".
21.10 Надвор'е.
21.15 Добры вечар.
22.30—0.35 Чэмпіянат свету па фігурнаму катанню. Спартыўныя танцы. Мужчыны. Адвольная праграма.

**Санкт-Пецярбург**

11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55 Інфарм ТБ.
12.10 "Гісторыя кахання". Серыял.
13.00 Тэрмін адказу — сёння.
13.25 Парады садаводам.
14.10 Парадоксы гісторыі. "Скрыпач на троне".
14.35 Скарбы Пецярбурга. "Руския ў Італіі".
14.50 "Прагулка мерцвяка". 3-я серыя.
15.40, 20.45 Тэлеслужба бяспекі.
16.05 "У Ігара Д." Тэатральная гасціная.
16.45 "Хто сказаў "мяў"?" Мультфільм. "Ад і да..." Студыя "Уяві".
17.30 "Усё стане танцам". Фільм-канцэрт.
18.40 Вялікі фестываль.
19.10 Спорт.
19.20 "Гісторыя кахання". Серыял.
20.10 Асабістая справа.
21.00 "Прагулка мерцвяка". 3-я серыя.
22.00 Падзея.
22.20 Спартыўны агляд.
22.30—23.15 Дом кіно. "Зоркі заўтрашняга дня".

**НТБ**

5.00 Сёння раніцай.
9.15 Ранак.
9.30 Жаночыя гісторыі. "Доктар Куін, жанчына-ўрач".
10.30, 17.30 "Вуліца Сезам".
11.00, 13.00, 15.00 Сёння ўдзень.
12.00 Адкрыты свет.
13.20 "Часінка".
15.35 "Дыстанцыя 60" + "Пстрычка".
16.35 Кінатэатр юнага гледача. "Блакітнае дрэва".
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.40 Герой дня.
19.05 Свет кіно. Маст. фільм "Агент Мэлоун" (ЗША).
20.45 Рускі альбом.
21.40 Часінка.
22.00 "Спяваючыя ў цярноўніку". 4-я серыя (ЗША).
23.00 Сёння апоўначы.
23.20 "Часінка".
24.00 Кіно не для ўсіх. "Ідзі туды ж і ты" (Германія).

**ТБ-6 Масква**

6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.00, 22.45 Шэсць навін.
6.10 Дыск-канал.
6.40 "Вяртанне Д'Артаньгава".
7.10, 23.00 Дарожны патруль.
7.20 Рэцэпты ад "Цэптэр".
7.30, 13.05 90х60х90.
7.45, 10.10 Аптэка.
8.10 Прыватны выпадак.
8.30 Гумарыстычная праграма.
8.55 Серыял "Па слядах Усемагутных": "Каменныя монстры".
9.25 Серыял "Дынастыя II (Сям'я Колбі)". 2-я серыя.
10.30, 12.40 Тэлемагазін.
11.00 Кінатэатр ТБ-6. "Каньяк".
13.20 "Вяртанне Д'Артаньгава". 26-я серыя.
18.15 "Рабыня Ізаўра". 12-я серыя.
19.05 Ток-шоу "Зрабі крок".
20.15 Серыял "Дынастыя II (Сям'я Колбі)". 3-я серыя.
21.10 Тыя, хто.
21.40 Дэтэктыўны серыял "Новыя мсціўцы". 1-я серыя.
22.35 Шоу Бені Хіла.
23.10 Дыск-канал.
0.00 Знак якасці.
0.20 Дыск-канал.

**8-ы канал**

18.00 Мультпланета.
18.15 С. Уітман у маст. фільме "Верхавода мафіі".
19.45 Хрысціянская праграма.
20.15 "Прыгоды капітана Урунгеля".
20.30 Г. Жжэнаў у серыяле "Лёс рэзідэнта".
22.00 Музычны канвеер.
22.30 Л. Палішчук, І. Касталеўскі у кінакамедыі "Гульня ўяўлення".

# Пятніца, 21 сакавіка

**Беларускае тэлебачанне**

7.30 Ранішні кактэйль.
7.45 "Музычная абойма". Беларускі хіт-парад.
7.50 Эканамікст.
8.00 Навіны.
8.10 "Прагноз надвор'я.
8.20 "Яшчэ не вечар". Госць праграмы — сям'я Фядорчанкаў.
8.35 Бархатны сезон. Музычна-забаўляльная праграма.
9.05 "Празрыстая Нёмана кропля". Тэленарыс.
9.20 "Спрыдзіцic", "Фімка". Мультфільмы.
10.10 "Залатыя гады". 2-я серыя.
11.05 Зорная ростань. Тэлеконкурс маладых артыстаў эстрады.
11.40 "М і Ж". Спектакль тэатра "Хрыстафор".
13.00 Навіны.
13.10 А. Збруеў у маст. фільме "Пярсцёнак з Амстэрдама".
14.35 "Крэва". Дак фільм студыі "Летапіс".
15.00 Навіны (з сурдаперакладам).
15.10 Відэакурс французскай мовы. Перадача 12-я.
15.40 "Крэм-бруле", "Фунцік і сышчыкі", "Пра Веру і Анфісу", "До-рэ-мі". Мультфільмы.
16.35 "Правінцыя". Шклоўскі раён.
17.00 Музычны антракт.
17.10 ШАНС. Інфармацыйна-аналітычная праграма.
17.40 Эканамікст.
17.50 "Музычная абойма". Беларускі хіт-парад.
18.00 Навіны.
18.20 "Залатыя гады". 2-я серыя.
19.15 Тэма дня.
19.35 Міжнародны кур'ер.
20.05 "У джазе толькі дзяўчаты". Забаўляльная праграма.
20.30 Музычны антракт.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.50 Эндру Макарці і Скот Глен у маст. фільме "Начны ўцякач" (ЗША).
23.30 Акалада. Музычна-забаўляльная праграма.
24.00 Навіны.

**ГРТ**

11.00, 14.00, 17.00, 23.00 Навіны.
11.15 "Корцік". 3-я серыя.
12.45 Джэнтльмен-шоу.
13.15 Аўтарская праграма Г. Скараходава "У пошуках страчанага". Мікалай Кручкоў.
14.20 Мультсерыял.
14.45 Марына Нэёлава і Алег Даль у фільме "Старая, старая казка".
16.25 Магія: свет звышнатуральнага.
17.20 "Дзяўчына па імені Лёс".
18.10 Надвор'е.
18.15 Чалавек і закон.
18.45 Поле цудаў.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.45 Вялікія сышчыкі: Каломба ў дэтэктыве "Самы небяспечны матч".
22.15 Погляд.
23.15 Анатоль Рамашын і Ірына Разанава ў дэтэктыве "Смерць і кіно".
0.40 Экспрэс.

**Расія**

7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.15 Медыцынскі веснік.
7.25 "Клубнічка".
7.55 "Дарагая рэдакцыя..."
8.20, 9.55 Тавары — поштай.
8.30 L-клуб.
9.05—10.15 "Санта-Барбара".
13.25 "У пошуках капітана Гранта". 3-я серыя.
14.30 "Маска, хто ты?" Нацыянальны тэатральны фестываль "Залатая маска".
15.00 Суайчыннікі.
15.25 Экспавеснік.
15.30 Арэна для сенсацый.
16.15 Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя.
16.55 Там-там навіны.
17.05 Лукамор'е.
17.25 Паглядзі на сябе.
17.40 "Клубнічка".
18.10 Двайны партрэт.
18.40 Расіяне.
19.35 L-клуб.
20.10 "Санта-Барбара".
21.10 Надвор'е.
21.15 Добры вечар.
22.30 Начны экспрэс.
23.10—0.55 Чэмпіянат свету па фігурнаму катанню. Жанчыны. Кароткая праграма. Спартыўны танец.

**Санкт-Пецярбург**

11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55 Інфарм ТБ.
12.10 "Гісторыя кахання". Серыял.
13.00 Тэрмін адказу — сёння.
13.25 Парады садаводам.
13.40 Сіняя птушка Гжэлі.
14.10 Ток-шоу "Наўздагад". А. Апіна.
14.45 "Прагулка мерцвяка". 4-я серыя.
15.35, 20.40 Тэлеслужба бяспекі.
16.10 Страсці па "Кармэн".
16.50 "Раўнаецца каханне..." Адказы на пісьмы.
17.00 Іржавыя праўды.
17.30 "Чароўная гісторыя". Тэлеспектакль для дзяцей.
18.40 Вялікі фестываль.
19.10 Спорт.
19.20 "Гісторыя кахання". Серыял.
20.10 Праграма "Без назвы" прадстаўляе "Зорны розыгрыш".
21.00 "Прагулка мерцвяка". 4-я серыя.
22.00 Падзея.
22.20 Раман з героем.
22.55—23.56 Тэніс. Міжнародны турнір. "Кубак Санкт-Пецярбурга-97".

**НТБ**

5.00 Сёння раніцай.
9.15 Ранак.
9.30 Жаночыя гісторыі. "Доктар Куін, жанчына-ўрач".
10.30 "Вуліца Сезам".
11.00, 13.00, 15.00 Сёння ўдзень.
12.00 Адкрыты свет.
13.20 Вялікая "Часінка".
15.35 Дыстанцыя 60.
16.35 Маст. фільм "Блакітнае дрэва".
17.30 Футбольны клуб.
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.40 Герой дня.
19.05 Кіно 80-х. Альберт Філозаў і Леў Барысаў у фільме "Залатая баба".
20.40 "Алё, Фіма!"
21.40 Часінка.
22.00 "Спяваючыя ў цярноўніку". 5-я серыя (ЗША).
23.00 Сёння апоўначы.
23.20 "Часінка".
23.45 Маст. фільм "Арс Армандзі", ці Майстэрства кахання".

**ТБ-6 Масква**

6.00, 8.00, 13.50, 18.30, 20.00, 22.40 Шэсць навін.
6.10 Дыск-канал.
6.40 Мультсерыял.
7.10, 22.55 Дарожны патруль.
7.20 Рэцэпты ад "Цэптэр".
7.30, 13.05 90х60х90.
7.45, 10.15 Аптэка.
8.10 Прыватны выпадак.
8.30 Ток-шоу "Маё кіно".
9.25 Серыял "Дынастыя II (Сям'я Колбі)". 3-я серыя.
10.25, 12.30 Тэлемагазін.
11.00 Кінатэатр ТБ-6. "Пазнаць Лізу".
13.20 Мультсерыял.
18.00 Вы — відавочца.
18.40 Маст. фільм "Меч Гедэона".
22.10 Клуб "12 капеек".
23.05 Дыск-канал.
23.55 "Самая сексуальная жывёліна".
1.15 Знак якасці.

**8-ы канал**

18.00 Мультпланета.
18.15 Маст. фільм для дзяцей "Акваланґі на дне".
19.45 Хрысціянская праграма.
20.15 "Прыгоды капітана Урунгеля".
20.25 Даведачная служба прэс-экспрэс.
20.30 Г. Жжэнаў у серыяле "Лёс рэзідэнта".
22.00 Навукова-папулярны экран.
22.30 Маст. фільм "Не для публікацыі" (Англія).

# Субота, 22 сакавіка

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Навіны.
8.10 "Музычная абойма". Беларускі хіт-парад.
8.15 Здароўе. Генетыка і здароўе нацыі.
8.50 Усё пра ўсё.
9.15 Урокі Наталлі Навакылавай.
9.45 "Рэгіён". Перадача з Гродна.
10.15 "Лёс мой і надзея". Сацыяльная рэабілітацыя інвалідаў.
10.45 Свет прыроды і захапленняў.
11.10 Вока. Пра рэкламу і не толькі...
11.30 Народы Беларусі: гісторыя, культура, быт.
12.00 "Музычныя навэлы фальклор-тэатра "Госціца". Відэафільм.
12.10 Алімп: ад падножжа да вяршыні.
12.30 Банкаўскай сістэме Беларусі — 75 гадоў.
13.15 Калаж. Праграма для дзелавых людзей.
13.45 Асілак. Уручэнне прэмій "Залаты атлет" у спартыўных намінацыях за 1996 г.
15.00 Навіны.
15.15 Чацвёртае вымярэнне. Пераплёт.
15.40 "Запрашаем на вячоркі". "Саракі" ў вёсцы Раманавічы Магілёўскага раёна.
16.20 Беларускі дом. Мастацка-публіцыстычная праграма.
17.00 Зорная ростань. Тэлеконкурс маладых артыстаў эстрады.
17.40 "Рызыка-версія". Тэлегульня.
18.10 Галерэя. Дырэктар Мінскага дзяржаўнага цырка Таццяна Бандарчук. Аўтарская праграма Таццяны Ягоравай.
18.40 "Музычная абойма". Вынікі тыдня.
18.55 Л. Гурчанка і С. Шакураў у маст. фільме "Каханая жанчына механіка Гаўрылава".
20.10 Банка коміксаў.
20.40 Калыханка.
21.00 Навіны.
21.45 Відзьма-нявідзьма.
22.50 Ш. Стоун і М. Дуглас у маст. фільме "Асноўны інстынкт".

**ГРТ**

6.45 Маст. фільм "Узброены і вельмі небяспечны".
8.25 Мультсерыял "Вялікае падарожжа Болека і Лёлека".
8.45 Хатняя бібліятэка.
9.00, 14.00, 17.00 Навіны.
9.10 Слова пастыра. Мітрапаліт Кірыл.
9.30 "Не зявай!"
10.00 Ранішняя пошта.
10.35 Смак.
10.55 Вайна сакрэтных службаў у дак. дэтэктыве "Бомба".
11.45 Наталія Ценякова ў фільме "Зялёная карэта".
13.25 Відавочнае-неверагоднае.
14.20 "Царэўна-жаба", "Мы за сонейкам ідзём".
15.10 Аркадзь Вайнер і Вера Кальман у фільме "Запрашэнне да музыкі".
15.35 У свеце жывёл.
16.15 Леанід Якубовіч у тэлегульні "Кола гісторыі".
17.25 Фігурнае катанне. Чэмпіянат свету. Жанчыны. Адвольная праграма.
18.40 Серыял "Гордасць і прадузятасць", 3-я серыя.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.55 Надзея Румянцава і Мікалай Рыбнікаў у фільме "Дзяўчаты".
22.55 "Каламбур". Гумарыстычны часопіс.
23.30 Меладрама "Чырвоныя чаравічкі".

**Расія**

7.00 "Прыгоды капітана Урунгеля".
7.20 "Тайны цёмных джунгляў". Тэлесерыял.
8.10 Ці-маркет.
8.20 Клуб "Адрэналін".
8.35 Мемарына.
9.00 Добрай раніцы, краіна!
9.45 Наш сад.
10.00 Весткі ў адзінаццаць.
10.30 Парламенцкі тыдзень.
11.15 Рамансіяда-97.
11.30 Лепшыя гульні НБА.
12.30 Ананімныя субяседнікі.
13.00 Весткі пра...
13.20 "Працістаянне". Тэлесерыял (ЗША).
14.05 Дыялогі пра жывёл.
14.30 "Паэт у Расіі — больш, чым паэт".
15.00 Бясконцае падарожжа.
15.30 "Цёмная" для Л. В. Смірнягіна.
15.45 Суботні вечар.
15.55 Футбол. ЦСКА (Масква) — "Аланія" (Уладзікаўказ).
17.55 Аншлаг і К".
19.00 Весткі.
19.35 Гарачая тэма.
19.50 "Тры ўцекачы". Маст. фільм (ЗША).
21.40 "Адзін супраць усіх". Тэлегульня.
21.55 Зусім сакрэтна.
22.50 "Сітуацыя". Інтэрактыўнае шоу.
23.05 Рэпарцёр.
23.20 Праграма "А".
0.15 Клуб славутых дэтэктываў.
0.45 "Пяцьдзесят на пяцьдзесят". Маст. фільм (ЗША).
2.20—2.35 Гараскоп, відэамедытацыя.

**Санкт-Пецярбург**

9.10 "Гонар маю". Ваенны агляд.
9.40 "Прыйдуць страсцімардасці". Маст.фільм.
10.45 Паласатая музыка.
11.10 Ток-шоу "Наўздагад".
11.40 К. Меліхан. "Адзін дзень".
11.55, 13.55, 15.55, 18.55 Інфарм ТБ.
12.10 Залаты фонд. Тэлевізійны тэатр Ю. Маляцкага.
14.10 Яшчэ адна Расія.
14.45 Руская сядзіба.
15.10 Гістарычны дэтэктыў.
16.10 Спартыўны агляд.
16.30 Гульня "Лато-бінга".
17.30 Спявае Д. Хварастоўскі.
18.40 Вялікі фестываль.
19.20 Музычны рынг.
20.55 Свецкая хроніка.
21.10 Блеф-клуб.
21.45 Агляд футбольнага тура чэмпіянату Расіі.
22.25 Экспрэс-кіно.
22.50—23.50 Тэніс. "Кубак Санкт-Пецярбурга-97".

**НТБ**

7.00 Сёння раніцай.
9.00 "Дыназаўрык па імені Дзінк" (ЗША).
9.30 Тэлегульня "Зразумей мяне".
10.00 Маст. фільм "Тарзан" (ЗША).
10.45 Мультфільм.
11.00, 15.00 Сёння ўдзень.
12.00 Хакей. Чэмпіянат Расіі. 1/4 фіналу.
14.30 "Панарама" з Усеваладам Аўчыннікавым.
16.00 Рускі альбом.
16.30 Мультсерыял "Чалавек-павук" (ЗША).
17.00 Час "Ч" з Вольгай Кучкінай.
17.30 Дог-шоу. Я і мой сабака.
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.30 Дак. серыял "XX стагоддзе. Рускія тайны".
19.00 Леслі Нільсен у фільме "Дзіця напракат" (ЗША).
20.45 Лялькі.
21.45 Надоечы-64.
22.30 Суботняе шоу Мікалая Фаменкі "Імперыя страсці".
23.10 Чэмпіянат Расіі па футболу: Тур за турам.
24.00 Трэцяе вока.
0.30 Начны канал. "Плэйбой-шоу".

**ТБ-6 Масква**

6.00, 7.00, 18.10, 21.35 Шэсць навін.
6.10 Тэлемагазін "Дзякуй за пакупку!"
7.10, 22.40 Дарожны патруль.
7.25 Дзіцячы сеанс. "Сляпая птушка".
8.35 Мультфільмы.
9.00 "Том, Джэры і іх сябры". Мультфільм.
9.55 "Гэта мы не праходзілі!"
10.30 Серыял аб прыродзе "Дзікая прырода Аўстраліі".
11.30 Адкрыты тыдзень".
12.05 "Тэорыя замоў": "Шэйх і ЦРУ".
13.00 Дыск-канал для дзяцей.
13.55 Ток-шоу "Я сама": "Асаблівасці жаночага палявання".
14.55 Ток-шоу "Прафесія": "Адвакат.
15.50 Клуб адзінокіх сэрцаў.
16.20 "Таямнічы востраў". 41-я і 42-я серыі.
17.15 Нью-Йорк, Нью-Йорк.
17.45 Кінападрабязна.
18.20 Скандалы тыдня.
18.50 Гумарыстычная праграма.
19.35 Сатырычны кіначасопіс "Фитиль".
19.50 Маст. фільм "Сцеражыся аўтамабіля".
21.45 Шоу Івана Дзямідава "Абоз".
22.55 Кінатэатр ТБ-6. "Запальваючая позіркам" (ЗША).
0.55 Дыск-канал.

**8-ы канал**

15.00 Хрысціянская праграма.
15.30 Мультфільм "Ганс Ежык".
16.00 "Запрашаем, калі ласка!"
16.15 Дак. фільм "Сонм белых князёўнаў".
18.15 На-лі-вай!
18.45 Г. Жжэнаў у серыяле "Лёс рэзідэнта".
21.15 Паліскоп.
21.30 Hi-Fi music.
22.00 С. Сталоне ў маст. фільме "Оскар".

# Нядзеля, 23 сакавіка

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 "Не шамацець", "Непаседа". Мультфільмы.
8.30 Фехтаванне. Міжнародны турнір памяці Германа Бокуна.
9.10 Тэлебом.
9.40 "Уся справа ў капелюшы".
10.10 Вяршыня свету. Тэлевіктарына.
10.45 "Усё нармальна, мама!"
11.15 Тураб'ектыў.
11.35 Арсенал. Праграма для вайскоўцаў.
12.05 "Вайна ў паветры". 29-я серыя.
12.30 Востраў натхнення. "Насустрач".
13.10 "Наконадні будучыні", "Тэлек-шоу".
13.35 Вяскоўцы. Клецкі раён.
14.05 "Галасы мінуўшчыны". VI фестываль "Адраджэнне Беларускай капэлы".
14.35 Гісторыя кахання. Вольга Лапо і Віктар Саркісян.
15.00 Навіны.
15.15 Бон тон. Тэлечасопіс моды.
15.45 Камп'ютэрны палігон.
16.10 Госці ў дом. Мост.
16.35 "Не памажаш — не паедзеш". Масла "Нафтана".
16.50 Музычны салон. "Гучала музыка з экрана..."
17.30 "Оскар". Тэлегульня.
18.00 Абібок.
18.35 "Валодзя вялікі, Валодзя маленькі". Маст. фільм паводле апавядання А. П. Чэхава.
19.40 Калыханка.
20.00 Рэзананс.
20.50 Спартыўны тэлекур'ер.
21.10 Тэленавігатар.
21.30 Ток-шоу "Карамболь" з удзелам Павераната ў справах Дзяржавы Ізраіль Зеева Бен-Ар'е.
22.10 Маст. фільм Луіса Бунюэля "Дзённік пакаёўкі" (Францыя—Італія).
23.50 Бархатны сезон. Музычна-забаўляльная праграма.

**ГРТ**

7.00 "Цімур і яго каманда".
8.20 Мультфільмы.
9.00, 14.00, 0.15 Навіны.
9.15 "Бесталковыя нататкі" Дз. Крылова.
9.30 Пакуль усе дома.
10.10 Ранішняя зорка.
11.00 Служу Расіі!
11.30 Іграй, гармонік любы!
11.55 Правінцыяльныя гісторыі.
12.25 "Падводная адысея каманды Кусто".
13.20 Смехапанарама.
14.20 Вяртанне Траццякоўкі.
14.45 Серыял. "Сімфанічныя тайны".
15.10 Клуб падарожнікаў.
16.00 "Ружовая пантэра", "Прыгоды Вудзі і яго сяброў".
16.45 "Сам-насам".
17.15 Фігурнае катанне. Чэмпіянат свету. Паказальныя выступленні.
18.50 Надвор'е.
18.55 Серыял "Гордасць і прадузятасць". 4-я серыя.
20.00 Час.
20.45 Шарон Стоун і Роберт Дэ Ніра ў фільме "Казіно" (1996 г.).
23.45 Футбольны агляд.

**Расія**

7.00 "Прыгоды капітана Урунгеля".
7.40 "Тайны цёмных джунгляў". Тэлесерыял (ЗША).
8.30 Латарэйныя навіны.
8.45 Добрай раніцы, краіна!
9.25 "Чырвоная кніга". Экалагічная экспедыцыя РТР.
9.40 Прысяга.
10.10 Сіла здароўя.
10.15 Рускае лата.
10.55 Мода.
11.00 Кніжная лаўка.
11.25 Пілігрым.
11.50 Спяваюць драматычныя артысты.
12.15 Чалавек на Зямлі.
12.40 "Нічога, акрамя..."
13.00 Весткі.
13.20 "Працістаянне". Тэлесерыял (ЗША).
14.15. Сад культуры.
14.40 "Развітальная гастроль". Іосіф Кабзон.
14.55 21 кабінет.
15.20 Нобелеўскія лаўрэаты. Барыс Пастэрнак.
16.10 "Крануты", "Аладзін".
17.05 Караоке па-руску.
17.35 Увесь свет.
18.15 Тэлескоп.
19.00 Люстэрка.
20.00 Надвор'е.
20.05 Рэпартаж ні аб чым.
20.20 "Кубанскія казакі". Маст. фільм.
22.15 Ален Дэлон, Жульет Бінош і Леанарда ды Капрыо ў праграме "Пацалунак у дыяфрагму".
23.10 "Ва ўсіх на вуснах". Праграма Н. Дар'ялавай.
23.25 У Ксюшы.
23.55—0.05 Рэк-тайм.

**Санкт-Пецярбург**

8.40 Гаючае слова.
9.10 Тата, мама і я — спартыўная сям'я.
9.40 Авертайм.
10.05 "Паляўнічыя". Дак. серыял.
10.55 "Рускія мастакі-вызваліцелі". Тэлефільм.
11.25 Старое танга. "Легенды старой аперэты".
11.55, 13.55, 15.55, 18.55 Зваротны адлік.
12.10 "Ён, яна і дзеці". Маст. фільм (Латвія).
13.25 "Што з нашым кліматам?" Тэлефільм.
14.10 Яшчэ адна Расія.
15.10 "На біс". Барбара Хендрыкс у Пецярбургу.
15.25 Іграе Вадзім Чабанаў.
16.10 Спартыўная праграма.
16.40 "Залаты ключ", "Кідайка".
17.30 Іграе Прэзідэнцкі аркестр.
18.40 Скарбы Пецярбурга.
19.20 "Жаночы дзень". Маст. фільм (Расія).
20.55 Ва ўсіх на вачах.
21.10 Ноу смокінг.
21.55 Міжнародны агляд.
22.25—23.32 Тэніс. "Кубак Санкт-Пецярбурга-97".

**НТБ**

7.00 Сёння раніцай.
9.00 Вуснамі дзіцяці.
9.30 Тэлегульня "Зразумей мяне".
10.00 Свет прыгод і фантастыкі. Маст. фільм "Тарзан" (ЗША).
10.45 Мультфільм.
11.00, 15.00 Сёння ўдзень.
12.00 Кніжны магазін.
12.30 Джына Лолабрыджыда і Жан-Поль Бельмандо ў фільме Рэната Касцелані "Бурнае мора" (Італія).
14.10 Рускі альбом.
14.30 Тэлегульня "Свая гульня".
16.00 Рускі дэтэктыў "Майстар Усходу".
17.30 Нядзельная праграма Мікалая Фаменкі "Руския цвікі".
18.00 Сёння ўвечары.
18.30 XX стагоддзе. "Рускія тайны".
19.00 "Гангстэрскія хронікі: амерыканская гісторыя" (ЗША).
20.00 Вынікі.
21.10 Сільвестар Сталоне і Брыгіт Нільсен у фільме Джорджа Пан Касматаса "Кобра" (ЗША).
23.00 Фестываль відэакліпаў "Пакаленне-96".
0.10 Магазін на канапе.
0.40 Эратычныя шоу свету.

**ТБ-6 Масква**

6.00, 7.00, 16.50 Шэсць навін.
6.10 Тэлемагазін.
7.10, 18.05 Дарожны патруль.
7.20 "Галавакружныя прыгоды Біла і Тэда". 5-я і 6-я серыі.
8.15 "Прыгоды Квенціна Дорварда, стралка каралеўскай гвардыі".
9.55 "Пальчыкі абліжаш".
10.30 Гумарыстычная праграма "Назло рэкордам".
10.55 "Дзікая прырода Аўстраліі".
11.35 Канон.
12.05 Праграма А. Палітkoўскага "Самы ніжні Ніжневартаўск".
12.35 Ток-шоу "Музыка і прэса": "Акулы пяра". Аляксандр Розенбаум.
13.30 Ток-шоу "Зрабі крок".
14.25 Спорт тыдня.
14.55 "Том, Джэры і іх сябры". Мультфільмы.
15.55 "Таямнічы востраў". 43-я і 44-я серыі.
17.00 Ток-шоу "Маё кіно" з Віктарам Мярэжкам.
17.45 Тэлеканкрэтна.
18.20 Аналітычная праграма "Аглядальнік".
19.05 Сатырычны кіначасопіс "Фитиль".
19.20 "Часам яны вяртаюцца".
21.10 Шоу Бені Хіла.
21.45 С. Садальскі, Н. Крачкоўская, М. Какшэнаў у камедыі "Аферысты".
23.15 Тэледыскатэка "Партыйная зона".

**8-ы канал**

15.00 Хрысціянская праграма.
15.30 Калекцыя 8-га канала. Пол Макартні.
16.30 Фантастычны серыял "Космас: далёкія куточкі".
18.00 Залаты фонд. "Казка пра Залатога пеўніка".
18.45 Г. Жжэнаў у серыяле "Лёс рэзідэнта".
21.00 Экспертыза.
21.30 Навіны "К-відэа".
22.00 Д. Белушы ў трылеры "Сляды чырвонага".



НЕ ЧЫТАЦЬ... А ГЛЯДЗЕЦЬ!

№ 10 15 — 21 сакавіка 1997 г.

SCRIPTA MANENT

# ПРА АБ'ЕКТЫЎНУЮ КРЫТЫКУ

Стваральнік і першы галоўны рэдактар газеты "Культура" Вольга Іпатава раз-пораз пагрозліва нагадвала шараговым рэдактарам: каб у "Культуры" нават духу літаратуры не было. (Магчыма, яна казала пра гэта іншымі словамі, але праўду пафасу я гарантую.)

Камусьці, бадай, гэтая мая згадка надасца дзіўнай, а можа нават і неверагоднай: паэт, празаік, эсэіст (і г.д. і да т.п.) замест таго, каб лабіраваць літаратуру, вунь што вычварала.

Але асабіста мне нічога дзіўнага ў пазіцыі Вольгі Іпатавай тады не бачылася — не бачыцца і цяпер. У нас болей чым даволі ўласна літаратурных выданняў, а колькі яшчэ не ўласна літаратурных ад ляноты працаваць на сваёй дзялянцы затыкае дзіркі вершыкамі і іншай літаратурнай драбязой. Болей за тое, трохі перабольшваючы, можна сказаць, што ў новую пару (пачынаючы з Багушэвіча да пачатку 90-х) літаратура, як нейкі ненажэрны монстр, праглынала на Беларусі ўсё: палітыку, мастацтва, тэалогію, філасофію, культуру ўвогуле. Такое было ўражанне, што на Беларусі акрамя літаратуры і літаратараў нічога беларускага ніколі не было і няма, што Беларусь — гэта толькі беларуская літаратура і ўсе яе жыхары — пісьменнікі.

Пэўна, на ўсведамленні ўсяго гэтага (ці інтуітыўным прадчуванні) і паўстала засцярога колішняга галоўнага рэдактара: хочаш, каб "Культура" была "Культурай", беражыся літаратуры.

Але літаратура — гэта такая халера, што на якія засаўкі ні зачыняй дзверы, яна ўсё роўна ўшчыміцца, пралезе — хаця б праз комін. У выпадку з "Культурай" такім "комінам" стаўся літаратурна-філасофскі сшытак "ЗНО".

За час існавання сшытка да літаратуры ў "Культуры" патроху прызвычаіліся (ці змірыліся з ёй, як з наканаваннем), і калі "ЗНО" "ляснула", у рэдакцыйных закутках пачаліся рэвізіяніцкія размовы, сутнасць якіх зводзілася прыкладна да таго, што хай бы хоць якая літаратура ў "Культуры" ды заставалася.

Адначасна над праблемай "Якой літаратуры заставацца ў "Культуры"?.." пачало думаць і кіраўніцтва газеты. У выніку напружанага одуму была сфармуляваная выснова: наша задача не культываваць літаратуру, а аб'ектыўна аналізаваць і аб'ектыўна ацэньваць як літаратурны працэс увогуле, так і тыя асобныя падзеі працэсу, якія ў перспектыве могуць перарасці прыватныя літаратурныя рамкі і стацца падзеямі культуры.

Аб'ектыўна аналізаваць і аб'ектыўна ацэньваць літаратурны працэс было даручана мне (прозвішча пад тэкстамі).

Вярнуўся я з рэдакцыі дахаты, сеў за пісьмовы стол, закурыў цыгарэту "Астра" ("Мальбара" скончылася. Апошнюю "мальбарыну" з таго пачка, што мне падарылі на дзень нараджэння, я выпаліў месяцаў восем таму) і пачаў думаць, як мне аб'ектыўна ацэньваць беларускую літаратуру ў цэлым і творчасць асобных беларускіх літаратараў у прыватнасці.

Сякі-такі вопыт аб'ектыўных ацэнак у мяне ўжо быў. Здаецца, у 1986 годзе я надрукаваў у часопісе "Неман" артыкул "Судьбы войны, судьбы мира", дзе напісаў усё, што аб'ектыўна думаў пра Алеся Адамовіча, Васіля Быкава і іншых нашых слынных пісьменнікаў. Дык праз нейкіх пару месяцаў Алесь Адамовіч у маскоўскай "Літературной газете" расклаў мяне на газетную паласу і так высцебаў за Васіля Быкава, самога сябе ды аб'ектыўнасць, што і па сёння перад дажджом скура свярбіць.

Потым я яшчэ некалькі разоў спрабаваў напісаць аб'ектыўна — экзекутары былі ўжо другія, але радасць тая самая. І так гэтыя мае мітрэнгі з аб'ектыўнасцю цягнуліся да тае пары, пакуль я не пачаў працаваць у літаратуры прафесійна і са сваіх прафесійных абавязкаў не пазнаёміўся асабіста і не стаў хаўрусаваца з бальшынёй вартых увагі (зразумела, на мой погляд) беларускіх літаратараў.

Ну, скажыце, калі ласка, як я магу цяпер напісаць аб'ектыўна пра Рыгора Барадуліна, калі ён кіраўнік аднаго з экспертных саветаў, дзе я маю гонар быць шараговым, ці пра Алеся Разанава, які прывёз мне белыя шкарпэткі з камандзіроўкі ў Фінляндыю. А можа, я напішу аб'ектыўна пра аднаго са сваіх начальнікаў, рэдактара часопіса "Крыніца" Уладзіміра Някляева ці пра першага працадаўцу ў літаратуры Вольгу Іпатаву?.. Уладзімір Арлоў ніякі мне не начальнік, але калі мы доўга не бачымся, то, здараецца, што і абдымемся пры сустрэчы. З Галяй Дубянецкай я таньчыў на адной літаратурнай вечарыне, Людка Сільнова выткала для рэдакцыі часопіса "Крыніца" сурвэтку, дзе адзін колер прысвечаны і мне, а Галіна Булыка неяк сказала пра мяне добрае слоўка па радыё. (Дый і ўвогуле, трэба зусім забыцца ў сабе на мужчыну, каб казаць пра жанчын аб'ектыўна.) Далей: Сяргей Дубавец запрасіў мяне ў водную вандроўку па Віліі і Ашмянцы, а з Ігарам Бабковым мы плылі ў адной байдарцы; Леанід Галубовіч не пашкадаваў неяк апошняй цыгарэты, а Леанід Дранько-Майсюк ужо колькі год не шкадуе свайго сяброўства... Аднак спыняюся, бо, здаецца, пачаўшы з рытарычнага пытання пра магчымасці аб'ектыўнай крытыкі, я дакаціўся да пахвальбы сваімі шырокімі літаратурнымі сувязямі. Але рэч у тым, што я не выхваляюся, бо я тут не выключэнне, гэтак з усімі, гэтак ва ўсіх, хто мае хоць нейкае дачыненне да беларускай літаратуры. І ў гэтым адказ, чаму ў нас няма крытыкі, прынамсі аб'ектыўнай. Мы ўсе сталі залішне блізка адзін да аднаго, болей за тое, мы ўсе, як руская "матрёшка", адзін у адным.

Каб сказаць пра другога ўсё, што ты пра яго думаеш, трэба гэтага другога альбо адважна не любіць, альбо зусім не ведаць...

Так-то яно так, але як жа рэдакцыйнае заданне? — схамянуўся я. І паколькі я лічу сябе чалавекам адказным, то вырашыў: хаўрус хаўрусам, каляжанства каляжанствам, сяброўства сяброўствам, але перадусім — аб'ектыўнасць!

Вырашыў я гэтак, а потым уявіў сабе, што атрымаецца, калі я пачну пісаць усю праўду пра вышэй пералічаных і не пералічаных.

Дзядзька Рыгор (натуральна, Барадулін), калі не палянуецца, такую эпіграму складзе, што яе ўжо і за эпітафіяй не схаваеш.

Алесь Разанаў яшчэ шмат куды паедзе, але ўжо напэўна і дзіркі ад абаранка не прывязе.

Уладзімір Арлоў хутчэй з мокрым слупом абдымецца, чым з табой.

Сяргей Дубавец у чарговую вандроўку не запросіць, а калі і запросіць, то Ігар Бабкоў над першым вірам "байду" перакуліць (а сам выскачыць)...

І г.д. і да т.п.

У маладосці я не аднойчы прачынаўся з цудоўным пачуццём: мне хацелася быць харошым. Для ўсіх харошым. Потым гэтае ранкавае пачуццё знікла, бо я зрабіўся літаратурным крытыкам. А быць літаратурным крытыкам — гэта значыць быць дрэнным. Хоць для каго ды дрэнным. Такая спецыфіка прафесіі, і тут, здаецца, ужо нічога не паробіш. Але ёсць у гэтай спецыфіцы адзін, так бы мовіць, далікатны нюанс...

Татальна аб'ектыўны крытык — дрэнны для ўсіх.

Татальна суб'ектыўны крытык дрэнны толькі для некаторых, а для некаторых зусім нават і не дрэнны.

Дапаліўшы невядома якую па ліку "астрыну", я канчаткова ўсвядоміў, што не хачу быць татальна дрэнным. З гэтага вынікала, што з "аб'ектыўнай літаратурнай рубрыкай" у мяне нічога не атрымаецца.

І, калі сур'ёзна, то рэч тут зусім не ў тым, што мяне лішне палохае перспектыва зрабіцца наўсцяж дрэнным. Рэч у тым, што я не веру, быццам у прыродзе існуе нейкая аб'ектыўная літаратурная крытыка (літаратуразнаўства — куды яшчэ ні йшло).

Няма і ніколі не было такой крытыкі, бо ў кожнага з нас свая беларуская літаратура.

Свая беларуская літаратура ў Міхася Мушынскага.

Свая — у Пятра Васючэнкі.
Свая — у Галіны Тычка.
Свая — у Алеся Аркуша.
Свая — у Юрася Барысевіча.
Свая — у ...
Свая — у мяне.

І ніякай іншай, акрамя сваёй, я не ведаю. І таму, калі я нешта і магу казаць, то толькі пра сваю беларускую літаратуру і сваіх беларускіх літаратараў.

## РЭЦЭНЗІЯ

Я заўсёды лічыў, што беларусы — самая геніяльная нацыя ў свеце. Нават больш геніяльная за габрэяў, хоць мы пакуль яшчэ ніводнай рэлігіі не прыдумалі. (Нічога, прыдумаем! Наперадзе ў нас тысячагоддзі.) Вось вам чарговы прыклад нашай геніяльнасці. Ніхто ў свеце не дадумаўся стварыць часопіс, які будзе перадрукоўваць тое, што ўжо друкавалася ў кнігах і ранейшых часопісах ("дайджэсты" — гэта зусім іншае), — а мы дадумаліся. І назвалі гэтую дадумку "Всемирная литература". (Ужо выйшаў другі нумар.)

У звязку з выхадам гэтага, без перабольшвання, унікальнага выдання, у мяне процьма пытанняў. Але я пацікаўлюся толькі пра адно — метадалогію адбору кніг для перадруку іх у часопісе (раней звычайна было наадварот: спачатку рукапіс друкаваўся ў часопісе, а потым ужо рабіўся кнігай).

Дык вось, мяне вельмі цікавіць, як укладальнік адбірае, што друкаваць у гэтым нумары, а што ў другім. У яго ёсць нейкая сістэма, ці ўсё значна прасцей: прачнуўшыся і пазяхнуўшы колькі разоў, ён замуржаным вокам азірае паліцы хатняй бібліятэкі, і на якой кніжцы вока святлее, тая і кладзецца ў торбу, каб быць аднесенай у рэдакцыю на перадрук...

Зрэшты, можа я і дарэмна найперш пацікавіўся метадалогіяй, бо якой бы метадалогія ні была, сістэмнай ці несістэмнай, праз колькі там гадоў мы, чытачы "Всемирной литературы", аднолькава будзем ведаць усё пра хатнюю бібліятэку ўкладальніка часопіса.

Бясспрэчна, гэта вельмі цікава... Але для мяне пакуль застаецца незразумелым вось што: чаму я, замест таго, каб узяць са сваёй кніжнай паліцы Тагора, Пташнікава ці Конан Дойла (калі з'явіцца ахвота перачытаць), павінен купляць часопіс "Всемирная литература", дзе перадрукаваныя з такіх жа самых, як і ў мяне, кніжак Тагор, Пташнікаў, Конан Дойл?..

Зрэшты, далёка не ўсё ў гэтым свеце можа быць зразумета і вытлумачана чалавекам. Пэўна таму Гегель і напісаў сваё знакамітае: усё, што існуе, — патрэбнае, усё, што патрэбнае, — існуе.

# РАМАНЫ

Раней раманаў у беларускай літаратуры было, можа, і меней, чым хацелася б, але даволі, каб казаць, што раманы ў нас ёсць.

Потым пачалася "перабудова", і ўжо было не да раманаў, хоць бы як самому выжыць. Цяпер пайшлі чуткі, што раманы зноў пішуцца. І дзякаваць Богу. Бо што гэта за літаратура без раманаў? Абы што, а не літаратура.



Таму я і вырашыў у таго-сяго папытацца: ці праўда гэта — пра раманы? Перш папытаўся ў Вольгі Іпатавай:

**— Вольга Міхайлаўна, ёсць звесткі, што Вы быццам пішаце раман ці ўжо нават напісалі? Наколькі гэтыя звесткі, так бы мовіць, адпавядаюць... А калі адпавядаюць, то як назва рамана і пра што ён?**

— Раман мае назву "Залатая жрыца Ашвінаў". Ён распавядае пра падзеі, звязаныя з узвышэннем Новагародскага княства і Наваградка — першай сталіцы Вялікага княства Літоўскага, і з асобамі Міндоўга і яго сына Войшалка.

У сярэдзіне мінулага стагоддзя А.Кіркор у "Живописной России", апавядаючы пра культ Барыса і Глеба, зазначыў, што ў ім выразна праступаюць сляды індускіх багоў-блізнятаў Ашвінаў; сляды гэтыя дасюль прысутнічаюць у многіх міфалогіях свету (браты Дыяскуры, Ромул і Рэм і г.д.), а на Беларусі захаваліся ў выглядзе конскіх галоў на дахах дамоў. Менавіта на Наваградчыне мог існаваць храм братоў-блізнятаў (той жа Кіркор нагадвае, што іхні культ захоўваўся тут яшчэ ў пачатку XX стагоддзя). І я паспрабавала, прааналізаваўшы "Рыгведу", дзе Ашвіны займаюць па колькасці прысвечаных ім гімнаў чацвёртае месца, прыўзняць заслону над гэтай найцікавейшай старонкай нашай гісторыі...

**— Як па нашым часе, то невядома, што лягчэй: напісаць раман ці яго надрукаваць? Дзяржаўныя выдавецтвы ў прадхаўтурным стане, "прыватным патрэбны "навар", а які там "навар" з беларускага (натуральна, з-за ягонай беларускамоўнасці) рамана? Што будзе з Вашым рукапісам?**

— І ўсё ж такі лічу — галоўнае напісаць. А там неяк будзе. Дапамаглі ж мне выдаць кніжку "Паміж Масквой і Варшавай".

* * *

***Адзін абзац з рамана "Залатая жрыца Ашвінаў"***

*"Каваль упаў ля ног маладой жрыцы, зацiснуўшы ў руках акрываўлены кінжал, што пратнуў ягоныя грудзі, і дзяўчыне здалося, што час спыніўся, што яна навекі застыла ў гэтым імгненні, як бездапаможная казюрка ў бурштыне: над цёмным небам Начы зачапіўся за воблака залаты краёчак калясніцы Ашвінаў, а злавесны цень багіні смерці Мары амаль насунуўся на яе. Але яна сабрала ўсе свае сілы і падняла ацяжэлыя рукі:*

*— Я не аддам яго табе!*

*Імгненне яны стаялі насупраць адна адной. І вось цень хіснуўся, адступіў..."*

# З ХРОНІКІ ЛІТАРАТУРНАГА ЖЫЦЦЯ-БЫЦЦЯ

Атрымалі ад дзяржавы "дармовыя" кватэры (ці не ў апошні раз пісьменнікам пашэнціла?) Барыс Пятровіч, Алесь Наварыч, Вольга Куртаніч, Галіна Тычка, Алесь Пашкевіч, Павел Савоська, Эдуард Акулін і некаторыя іншыя...

Не атрымалі ад дзяржавы дармовых кватэраў Уладзімр Арлоў і Леанід Галубовіч (у кутах сантыметраў было трохі лішку адносна нормы).

Атрымаўшым — віншаванні, не атрымаўшым — спачуванні...

Як вядома, нават Бог не роўна дзеліць, дык што хацець ад дзяржавы.

Святлана Алексіевіч і Валянцін Тарас абраныя ў назіральную раду Беларускага Фонду Сораса... Ці перападзе з гэтых абранняў што-кольвек беларускай літаратуры?

Ужо болей як паўгода ні ў воднай літаратурнай рэдакцыі не бачылі празаіка Алеся Асташонка. І куды ён знік?

Знік таксама паэт і культуролаг Алег Бембель (Зьніч). Але ў адрозненне ад Алеся Асташонка — вядома куды. Алег Бембель прадае свечкі ў Жыровіцкім манастыры. Такім чынам ён рыхтуецца да паслушэнства: так бы мовіць, адбывае кандыдацкі мінімум.

Калі будзе добра прадаваць — некалі стане паслушэнцам... Але колькі спакусаў!.. Хай Бог дапаможа Вам, спадар Алег, іх адолець. Балазе, калі верыць таксама паэту, Уладзіміру Караткевічу, "Бог на Беларусі жыве". Гэта значыць, недзе непадалёку ад Жыровіцкага манастыра.

Паэту Славаміру Адамовічу зменена мера ўтрымання. Ён вызвалены з вязніцы і да канчатковага рашэння суда можа працаваць дзе заўгодна і жыць (у межах Беларусі) таксама дзе заўгодна. Таму, калі вы сустрэнеце паэта ў Мазыры ці на якім гарадзенскім хутары, не спяшайцеся паведамляць у міліцыю.

Сяржук Мінскевіч (адзін са слупоў літаратурнага руху Бум-Бам-Літ) стварае рок-гурт. Відаць, тазіка (для неабазнаных — татэм-тамтам ББЛ) Сержуку ўжо мала, цяпер ён будзе грукаць у электронны бубен.

Празаік Андрэй Федарэнка зламаў руку. Тут не да жарцікаў. Выздараўлівайце хутчэй, спадар Андрэй!

## УЗНАЧАЛЬВАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ

1. Уладзімір Някляеў, не пакідаючы ўзначальваць часопіс "Крыніца", узначаліў штотыднёвік "ЛіМ".
2. Алесь Жук узначаліў часопіс "Неман".
3. Уладзімір Ягоўдзік узначаліў часопіс "Бярозка".
4. Георгій Марчук узначаліў выдавецтва "Мастацкая літаратура".
5. Шмат хто яшчэ што ўзначаліў апошнім часам, але хіба адразу ўсіх успомніш?

***На пачатку 90-х гадоў дзяржаўнае выдавецтва "Мастацкая літаратура" за год выпускала ў свет каля 200 найменняў самых розных выданняў. У 1997 годзе іх будзе не больш за 30. Хтосьці схопіцца за галаву, а я дык не. Пры жаданні ва ўсім можна ўгледзець што-кольвек станоўчае, нават у рэгрэсе. Хата згарэла, але колькі мышэй ляснула. (Колькі шэрых кніжак не пабачыць свету!)***

***Так, з мышамі гэта добра, аднак і мне трохі шкада, што падрыхтаваныя да друку зборнік прозы Васіля Быкава "Сцяна", зборнік паэзіі Алеся Разанава, кніга прозы Сакрата Яновіча, "П'яная кніга" Алеся Асташонка, кніга Уладзіміра Арлова і Генадзя Сагановіча "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі", кніга "Зацемак з левай кішэні" Леаніда Галубовіча (як і шмат якіх яшчэ добрых кніжак) ці то канчаткова выкрэсленыя з выдавецкага плана, ці адсунутыя гэтым планам кудысьці ў нікуды.***

***Нічым "выкрэсленцам" я дапамагчы, зразумела, не магу, хіба толькі паспачуваць. А няма лепшага спачування, чым выслухаць крыўду чалавека. Таму я і вырашыў папытацца ў таго-сяго, чаму, на яго думку, менавіта ягоны рукапіс не патрапіў у той нешматлікі лік (30), зацверджаны для выдання ў 1997 годзе.***

***Першым я папытаўся ў спадара Галубовіча. І вось які атрымаў адказ...***

***АДКАЗ СПАДАРА ГАЛУБОВІЧА НА ПЫТАННЕ СПАДАРА АКУДОВІЧА:***

— Яшчэ колькі гадоў таму мы з абурэннем дыскутавалі па пытаннях былой бальшавіцкай цэн-

№ 10 15 — 21 сакавіка 1997 г.

ТРАНЗІТАМ...

**Неспецыяльны рэпартаж**

# НОВЫ ПРЫЕЗД У СТАРЫ СВЕТ

***НЕ ВЕДАЮ, як вы, а я не люблю надоўга пакідаць свой дом. Як надоўга? Нават на адзін дзень. І не тое, што я — чалавек камфорту, проста не люблю жыць па раскладзе чыгуначных і аўтавакзалаў, прыстасоўвацца да чужых гарадскіх і вясковых фарбаў і назваў. І самае галоўнае — пераводзіць гадзіннік. Уся гэтая нелюбоў нарадзілася пасля таго, як канчаткова ўцяміла, што ніколі не спазнаю знакамітага пачуцця рамантызму вандроўніка з камандзіровачным пасведчаннем.***



Ці дождж скрозь сонечныя праменьчыкі пойдзе занадта халодны, ці абавязковы роздум пачне аналізаваць чарговае "адкрыццё Амерыкі" ва ўласным жыцці традыцыйнымі бяссоннымі начамі ў гатэлях ці вагонах...

Але ж Пскоў і "наваколле" мне асабліва падабаюцца, таму замінкі за матэрыялам у рубрыку "Неспецыяльны рэпартаж" не было. Тым больш, што ў Пячорах жыве мой 83-гадовы дзед і гэтыя мясціны, "наваколле Пскова", мне знаёмыя з дзяцінства. Нейкім чынам я адчуваю сябе Хрыстафорам Калумбам Пскоўшчыны сярод сваіх рэдакцыйных калег. Хоць у адным!

А калі шчыра, ні Калумбам, ні Жаннай Васанскай у горадзе Пячоры з пяцісотгадовай гісторыяй я не адчуваю. Не адчуваю нават часу. Затое ажывае фантазія, прыдушаная ўзростам і яснай перспектывай. Здаецца, што два дні я хаджу і жыву ў вялікім ангары — бутафорскім павільёне, дзе вось-вось пачнуць здымаць кіно, толькі ніяк не магу ўзгадаць: паводле якога твора з рускіх класікаў пабудавалі гэты кіношны гарадок мінулага стагоддзя? Усе творы і імёны падыходзяць калі не на сто працэнтаў, дык хаця б "цягнуць" на эпізод. Між іншым, на Пячорскія пейзажы спакушаліся многія рэжысёры. Гараджане яшчэ памятаюць Андрэя Таркоўскага, які ствараў мастацкую стужку "Андрэй Рублёў" у сценах Пскоўска-Пячорскага манастыра ў 1966 годзе. Праца над фільмам сталася святам. (Любіць чалавек час ад часу ўносіць элементы тэатральнасці ў сваё сур'ёзнае жыццё.)



Жыхары ўдзельнічалі ў масавых сцэнах і вымушаны былі некаторы час апранаць саматканае адзенне і абуваць лапці, як і належала ў эпоху іканапісца Андрэя Рублёва. А ўздоўж тоўстых манастырскіх сцен з байніцамі-вачыма гойсалі на конях "мангола-татары", палохаючы ўсіх занятых у здымках. Кажуць, што аднойчы вечарам, пасля здымак, здымачная група ледзь абараніла сваіх "манголаў" ад раз'юшаных рускіх "рабоў".

Вось яна, вялікая сіла мастацтва! Увогуле, Пячоры — гэта не толькі манастыр, хаця і апошні — далёка не толькі Пячоры. На працягу чатырох стагоддзяў існавання манастыра можна вылучыць тры перыяды: з 1470 па 1581 год — пачатак Пскоўска-Пячорскага манастыра, з 1582 па 1721 год — да далучэння Ліфляндыі да Расіі; з 1721 — да нашых дзён.

Месца, дзе стаіць Пскоўска-Пячорскі манастыр, некалі было пакрыта непралазнымі лясамі. Гэтыя мясціны прывабілі звераловаў з Ізборска. Праз некаторы час там пасяліліся прыстойныя мужы, каб пакінуць тлумны свет і выратаваць свае душы. У адной з гор мужы знайшлі пячоры і прыстасавалі іх для жылля. Добраахвотныя выгнаннікі жывымі хавалі сябе ў пячорах і жылі, як нябесныя жыхары. Над уваходам у адну з пячор захаваўся надпіс: "Богам дадзеная пячора". Колькі гадоў мае гэты надпіс — невядома, але ў рукапісных занатоўках манастыра ўзгадваецца: "открыся сия Богом зданная пещера 6900 (1392) году, при земце Иоанне Дементьеве".

Першым пустынна-жыхаром Пячорскім лічыцца Прападобны Марк, першы ж заснавальнік манастыра таксама вядомы — Прападобны Іаан. Толькі праца першых двух будаўнікоў манастыра была амаль знішчана набегамі ліфляндцаў. Усе будынкі былі спалены... І толькі ў 1529 годзе, калі настаяцелем манастыра стаў былы пастрыжанік Кірылій, узведзены ў сан ігумена, манастыр канчаткова ўладкоўваецца і ўпрыгожваецца. Цар Іаан IV замовіў ваяводзе Юрыю Такмакову абкласці золатам цудоўны абраз Успення Прасвятой Багародзіцы і зрабіць сярэбраны ківот для яго...

У вялікай бібліятэцы манастыра можна праседзець не адзін год, толькі акрамя зацікаўленасці журналіста і ўрачыстага пачуцця ад сапраўднай сустрэчы з былым павінна быць і яшчэ нешта. Сёння, асабліва напрыканцы чарговага стагоддзя, нельга не адчуць у сваім жыцці прысутнасць спраў Боскіх і, калі хочаце, веру ў Яго. Але ж з роўнай упэўненасцю можна заўважыць дзеянне і прысутнасць антыдабрыні, прабачце, Сатаны. Ва ўсялякім разе мае меркаванні ўжо не суб'ектыўныя, калі існуюць на нашым свеце жаночыя і мужчынскія боскія прытулкі ад свецкай і мірской мітусні.

У рэдакцыі раённай газеты "Печорская правда" мяне пазнаёмілі з фотакарэспандэнтам Сяргеем Маркелавым, які прадставіў фотаздымкі са свайго архіва. Між іншым, здымкі сапраўды унікальныя. На пачатку 90-х гадоў уся Расія сачыла за вырашэннем тэрытарыяльнага канфлікту: на межы Пячорскага раёна прэтэндавала Эстонія, спасылаючыся на Юр'еўскі (Тартускі) дагавор 1920 года, па якому зямля пячорская адышла да Эстоніі, а пасля 1939 года межаў не стала. Я не палітык, толькі добра ведаю, як перажылі жыхары Пячор і праваслаўнага манастыра магчымую новую ракіроўку на палітычнай карце. Хай сабе на бытавым, эмацыйна-абывацельскім узроўні ўспрымалася магчымая трагедыя жыхарамі. Толькі хіба гэтага мала? Чачня пачалася пазней...

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

Мінск — Пскоў — Пячоры — Мінск

**Фота Сяргея МАРКЕЛАВА, спецыяльна для штотыднёвіка "Культура".**

**P.S.** Калегі з Пячорскай "раёнкі" з нецярплівасцю чакаюць хутчэйшай інтэграцыі Расіі і Беларусі. Мараць пра лепшыя былыя часы... Дарэчы, а дзед мой праз мяне перадаў у Мінскую рэдакцыю "К" пляшку сапраўднага "Кагора № 37", прасвіркі і ладан з Іерусаліма, куды збіраецца зноў на Вялікдзень... Сапраўды, у здаровага духу — здаровае цела!



*На здымках:*

*Цяперашні настаяцель манастыра — айцец Ціхан.*

*Хросны ход на Успенне (жнівень, 1996 г.).*

*"Ёсць вуліцы цэнтральныя..." Пячоры сёння.*

*Візіт прэзідэнта Эстоніі Канстанціна Пятса ў Пскоўска-Пячорскі манастыр у 1931 годзе, побач — настаяцель манастыра Булін, які шмат зрабіў, каб захаваць дзейнасць манастыра ў Эстоніі (фота публікуецца ўпершыню).*

*Побач з прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным — архіепіскап Пскоўскі і Порхаўскі, якога пазбавілі сану за дазвол пахаваць у Пячорах вядомага рэцыдывіста тамбоўскай групоўкі (фота 1994 г.).*



# ГАРЫЦЬ "ЧЭШСКАЯ

***ЯШЧЭ раз згадаем падзею, якая адбылася напрыканцы мінулага года. Яе можна назваць самай галоўнай культурнай падзеяй Беларусі: у Празе былі адкрыты помнік і памятная дошка Францішку Скарыне.***

Горад-музей, дзе кожны новы будынак праходзіць строгае выпрабаванне на тое, ці ўпішацца ён у агульны архітэктурны ансамбль, далёка не ўсім праектам раскрывае абдымкі. І скульптар Эдуард Астаф'еў, аўтар помніка Скарыне, лічыць вялікім гонарам далучыць сваю працу да сусветнай Скарыніяны. Аб гэтым ён гаварыў на нядаўнім пасяджэнні сябрыны "Беларусь — Чэхія", якое адбылося ў Доме таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.

Старшыня сябрыны, прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта Ірына Шаблоўская, адкрываючы пасяджэнне, як заўсёды, запаліла пражскую свечку, падораную чэшскім беларусазнаўцам Міраславам Зімам, і цёплы яе агеньчык адразу надаў пасяджэнню таксама заўсёдны сяброўскі, неафіцыйны тон, хаця гаворка ішла пра сур'ёзныя, дзяржаўныя справы. Разам са згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына" "Беларусь — Чэхія" выступіла з грамадскай ініцыятывай аб святкаванні кнігі, выдадзенай у 1517 г. Францішкам Скарынай у Празе.

Сябрына ўжо правяла летась культурную праграму пад назвай "Беларусы ў Празе", і наша газета шырока асвятляла гэтую падзею. Дзеячы культуры, якія там пабывалі, мабыць, таксама паспрыялі таму, што помнік нашаму асветніку пастаўлены менавіта ў цэнтры горада, на Пражскім градзе, а на мурах Славянскай бібліятэкі, што знаходзіцца побач з Карлавым мостам, адкрыта і мемарыяльная дошка ў гонар Скарыны (скульптар Алесь Дранец).

Кантакты з Чэхіяй і чэшскай культурай, якія ўсталёўвае сябрына, асабліва ўзмацніліся з адкрыццём чэшскай амбасады ў Беларусі, і часовы паверны ў справах Чэхіі ў Беларусі Душан Доскачыл заўсёды ўдзельнічае ў пасяджэннях і мерапрыемствах "Беларусь — Чэхія", імкнучыся зноў адкрыць для нас краіну, якая на працягу нашай гісторыі неадноўчы была арыенцірам ідэалаў еўрапейскага гуманізму, дапамагаючы ў цяжкія хвіліны лепшым сынам і дочкам Беларусі. Варта нагадаць 30-я гады нашага стагоддзя, калі чэшскімі стыпендыятамі былі многія беларускія студэнты. Зрэшты, яна, гэтая цудоўная краіна, для нас і не "закрывалася", дзякуючы перш-наперш намаганням энтузіястаў, такіх, як, напрыклад, Вацлаў Жыдліцкі, які адным з першых стаў пісаць пра беларускую літаратуру ў кантэксце славянскім і сусветным, альбо былы супрацоўнік Славянскай бібліятэкі Міраслаў Зіма, які шмат дапамагаў нашым навукоўцам; нельга абмінуць сярод іх Ірыну Шаблоўскую і паэта Сяргея Панізьніка.

Аўтарка многіх артыкулаў і навуковых прац, Ірына Вікенцьеўна Шаблоўская многія гады аддала ўстанаўленню беларуска-чэшскіх культурных кантактаў, яна сапраўдны "Пасол Сяброўства" паміж нашымі краінамі. Сярод найбольш значных яе грамадскіх спраў — не толькі стварэнне сябрыны "Беларусь — Чэхія", але і пераклад, разам з Л.Віхравай, кнігі Вацлава Гавела "Сіла бяссільных". З'явіўшыся ў выдавецтве "Паліфакт" у бурлівым 1991 годзе, гэтая кніга, калі так можна сказаць, надала імпэту многім з тых, для каго паняцце дэмакраты асацыявалася з вобразам самога Вацлава Гавела — аднаго з нямногіх у свеце прэзідэнтаў-творцаў, чыімі п'есамі і эсэ, як інтэлектуальнымі падарункамі, асцярожна дзяліліся паміж сабою ў таталітарныя часы і нашы беларускія інтэлектуалы.

Сярод мерапрыемстваў у гонар выхаду першай ва ўсходнеславянскім свеце кнігі сябрына "Беларусь — Чэхія" прапануе правесці другі Скарынаўскі семінар у Славянскай бібліятэцы ў пражскім Клеменцінуме, урачыстыя вечарыны — не толькі ў Мінску і гарадах Беларусі, але і пры амбасадах Беларусі ў Польшчы, Германіі, Італіі, Чэхіі, Расіі — усюды, дзе жыў і працаваў вялікі Скарына. Думаецца, што такая вечарына магла б прайсці ў кож-

# ПАЭТ У МУЗЕЙНЫМ ІНТЭР'ЕРЫ

***Сама не ведаю, чаму ўжо даўнюю звестку аб тым, што Сяргей Панізьнік стаў вучоным сакратаром Літаратурнага музея Янкі Купалы, успрыняла з лёгкім здзіўленнем. Лёгкім — таму што цяпер не даводзіцца надта капрызліва падбіраць працу. А вось чаму ўвогуле са здзіўленнем? Можа, таму, што заўсёды ўспрымала яго як "чыстага" паэта, нягледзячы на шматлікія артыкулы аб розных культурных падзеях у Латвіі, нягледзячы нават на высокапубліцыстычныя кнігі яго аб Асвейскай трагедыі, дзе пісьменнік зафіксаваў адну з жахлівых старонак нашай гісторыі ў час апошняй вайны, на яго дзейнасць як старшыні таварыства "Беларусь — Латвія" і многае, многае іншае...***

Можа, таму своеасаблівым "адкрыццём" Панізьніка-даследчыка стала выстава "У сугуччы культур. Беларусь — Украіна" (да 90-годдзя першага беларускага замежнага музея ў Львове), якая днямі адкрылася ў Літаратурным музеі Янкі Купалы з удзелам украінскага пасольства. Ключом да гэтага адкрыцця сталі словы, сказаныя на ёй Старшынёй згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Ганнай Сурмач: "Часта бывала: прыязджаем на якую-небудзь сустрэчу, Сяргей дастае сціплую папачку, і праз нейкі час ты бачыш перад сабою цэлую выставу." "Сапраўды, — падумалася мне, — вось і летась, калі мы былі ў Празе, дастаў ён гэтак "папачку", і, як абрус-самабранка, стала яна выкідаць з сябе столькі цікавага пра беларуска-чэшскія адносіны! Тут табе і лісты, і публікацыі, і вершы, і звесткі пра агульныя імпрэзы... А колькі было і раней гэткай, як бы і звыклай, някідкай, але такой патрэбнай даследчыцкай, збіральніцкай працы!" І пакуль Сяргей паказваў шаноўнай аўдыторыі экспанаты выставы, якая на працягу дзевяноста складалася з ягонага архіва, я ўспамінала, што ўжо з першых вершаў адчувалася ў ім не толькі моцная самаахвярная знітаванасць з родным краем, але і разуменне таго, што хуткаплынны час усё змеле, знішчыць, і, каб не дапусціць гэтага ў адносінах да нацыянальнай культуры, трэба перамагаць уласнае творча-бесклапотнае ляноцце, рабіць тое, што, на жаль, наша літаратуразнаўства ў многім ці то не паспявала рабіць, занятае клопатамі пра ўсемагутны сацрэалізм, ці то не хацела, абслугоўваючы "лінію".

Львоўска-беларускія кантакты былі праз усе апошнія дзесяцігоддзі не тое каб непатрэбнымі, але нейкімі "не тымі". А між тым менавіта Львоў для некаторай часткі нашай нацыянальнай інтэлігенцыі быў своеасаблівай "Меккай", натхненнем і патрэбай душы. Успамінаю, як у 60-я гады, атрымліваючы лісты ад пісьменнікаў Аксаны Сенатовіч і Уладзіміра Лучука, Данута Бічэль-Загнетава не магла ўтрымацца, каб не паказаць мне некаторыя мясціны — тыя, напрыклад, дзе гаварылася пра занядбанне роднай мовы і пра тое, што трэба рабіць, каб яе ратаваць.

... Вось яны тут, на стэндах — нешматслоўны, але з заўсёднай светлай усмешкай, якая нібы прабіваецца праз знешнюю суровасць, Уладзімір Лучук, які так рана пайшоў з жыцця. Вось прыгожабясклапотная Аксана, якая ў маладосці падавалася мне вельмі падобнай да Валі Коўтун — дарэчы, і Валянціна тут, са сваімі вершамі; мабыць, ужо тады выспявала ў ёй жаданне напісаць пра сваю славутую папярэдніцу Алаізу Пашкевіч (Цётку), якую таксама песцілі, як дзіця, львоўскія старажытныя вулачкі, нашэптваючы пра даўніну





і нашую непарыўную сувязь з ёю. І Уладзімір Караткевіч грэў там душу — як грэлі яе на пачатку стагоддзя беларускія інтэлігенты, што прыязджалі да братоў-украінцаў па дапамогу ці каб схавацца ад паліцыі, а пазней і з просьбай купіць і схаваць неацэнныя скарбы нацыянальнай культуры, баючыся, каб вайна і пераследы не знішчылі іх тут, на Беларусі. У Аўстра-Венгерскай імперыі ім было зацішней. І сапраўды — па сённяшні дзень Львоўскі музей зберагае многае з таго, чаго ў нас ужо няма — напрыклад, слуцкія пасы...

Для музея было закуплена і каля 100 асобнікаў кніг з 20 беларускіх старажытных друкарняў — сярод якіх рарытэты з Віленскай друкарні Мамонічаў, 21 кніга з Супрасля, 11 кніг з Еўя і г.д. Аднак жа і ўкраінцы заўсёды маглі разлічваць на дапамогу суседзяў. Нездарма Іван Крыпякевіч яшчэ ў 1909 годзе ў тым жа Львове напісаў: "Сярод беларусаў знайшлі мы, украінцы, шчырых сяброў і суседзяў. А іначай не магло быць. Амаль усю мінуўшчыну пражылі мы разам з беларусамі, ніколі не было між двума народамі якой-небудзь нязгоды... У долі і нядолі ішлі мы ўсе разам".

Купалаўскі музей даў нам магчымасць зноў нагадаць асоб, якія дачыненыя да шчырай прыязнасці беларуска-ўкраінскіх адносін: Іларыёна Свянціцкага, які шанаваў Янку Купалу і перапісваўся з ім, мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага, сённяшніх руплівцаў, сярод якіх найперш варта сказаць пра Таццяну Кабржыцкую і Вячаслава Рагойшу — дарэчы, іхняя кніжка "Слядамі знічкі" таксама тут, на стэндах. Увогуле, выстава атрымалася цікаваю, але я не буду апісваць яе: варта лепей самому пастаяць перад стэндамі, узгадаць, дададаць. А заадно і пагартаць унікальную кніжачку "Рэха продкаў", выдадзеную музеем ужо сёлета, якая нібыта не мае дачынення да выставы, але затое цікавая агульным набыткам працы музея, яго вучонага сакратара, (аўтара прадмовы) і аўтараў. Яны — юныя паэты, якія прынялі ўдзел у конкурсе "З Купалам у сэрцы". Адзін з іх, дзевяцікласнік Мінскай СШ № 96 Андрэй Кажамакс, нібы сфармуляваў думкі, якія ўзніклі ў мяне падчас выставы:

*І знікнуць з памяці людской тыраны,*
*І боль, і слёзы, што у нас былі.*
*Забудуцца і жахі, і заганы,*
*Якія панавалі на Зямлі.*
*Хай будзе так! І быць ўсё так павінна,*
*Але магутны, усяўладны Час*
*Імкнецца у сваёй хадзе няспыннай*
*Схаваць не толькі дрэннае ад нас.*

Ну так, вядома: не будзь падзеі дзевяностагадовай даўнасці зафіксаваныя ў Слове, мы, можа, сёння і не ведалі б, што Львоўскі музей мае такое непасрэднае дачыненне да нашай музейнай справы, што беларусу, які туды трапляе, варта зайсці ў яго і падзякаваць душою тым, хто рупіўся пра нас, будучых. А яшчэ і нашаму, Купалаваму, падзякаваць за тое, што ён — не толькі сховішча ўсяго, што было звязана з імем вялікага песняра, але і жывы куток сённяшняй беларускай душы. Таму так утульна ў яго інтэр'еры Паэту, які, як далёка не кожны сённяшні дзеяч культуры, спалучае ў сабе шматграннасць даследчыка і грамадскага рупліўцы яе, Культуры. І які ў вершы "Святло юнацтва" нездарма піша:

*Зберагайце і пісьмы, і вершы,*
*Каб у думках прайсціся наноў*
*Па сцяжыне сваёй самай першай,*
*Па расе сваіх ранішніх сноў...*

**Вольга ІПАТАВА**

*На здымку: Сяргей Панізьнік; краявід Львова.*

## Навіны расійскай культуры

# ФІЛЬМ ПРА ЕРМАКА

Прэм'ера гістарычнага фільма "Ярмак" адбылася ў Вялікай зале Дома Урада Расійскай Федэрацыі. Да гэтай падзеі яго стваральнікі ішлі сем гадоў. Прычына вядомая: не хапала сродкаў. І калі б не дапамаглі фундатары з Германіі, выхад кінастужкі на экраны быў бы праблематычны.

На першай сустрэчы з гледачамі рэжысёр-пастаноўшчык фільма, народны артыст Расіі Уладзімір Краснапольскі падрабязна расказаў аб тым, як стваралася кінакарціна. Яе здымкі вяліся ў Алтайскім краі, у Пярмі, у Крамлёўскіх палатах. Сямігадовы "дыстанцыю" ад пачатку да заканчэння працы над фільмам вытрымалі не ўсе: за гэты час пайшлі з жыцця 15 членаў творчай групы. Сярод іх — выканаўца ролі Івана Жахлівага Яўген Еўсцігнееў (роля засталася незавершанай, не паспелі зрабіць некалькі эпізодаў), драматург Вадзім Трунін, кампазітар Леанід Афанасьеў (ён паспеў-такі напісаць усю музыку да фільма), Барыс Юрчанка, Валерый Парошын...

Фільм пра чалавека-легенду Ермака — смелая спроба яго стваральнікаў нагадаць сённяшняму гледачу пра непарыўную повязь з мінулым, дапамагаючы больш грунтоўна засвоіць урокі гісторыі. І гэтую спробу без перабольшання можна лічыць паспяховай. Фільм успрымаецца як прамы зварот да сучасніка, прымушае думаць, абуджае патрыятычныя пачуцці і памкненні. Адлюстроўваючы падзеі вялікага гістарычнага значэння, гэтая вострасюжэтная стужка не прыхарошвае гісторыю, не абыходзіць супярэчнасці і негатыўныя праявы тагачаснага жыцця. Перад намі паўстаюць людзі мужныя, гарачыя патрыёты і ў той жа час — не ідэальныя, не пазбаўленыя чалавечых слабасцей.

Ёсць у карціне і прыдуманая сюжэтная лінія — гісторыя кахання Ермака і Алены. З мастацкага пункту погляду, яна даволі захапляльная і перакана́чая...

Бліскуча выконвае галоўную ролю Віктар Сцяпанаў — акцёр з Санкт-Пецярбурга. У ролі Алены — Ірына Цэрахава. Запамінальныя, яркія вобразы стварылі таксама Мікіта Джыгурда, Ірына Алфёрава, Юрый Саранцаў, Аляксандра Калкунова, іншыя артысты.

Акрамя кінаверсіі працягласцю 2 гадзіны 15 хвілін зроблена і пяцісерыйная тэлеверсія. Тэлевізійны варыянт будзе паказаны ўвосень па Расійскім канале. Так што пагледзець фільм змогуць і беларускія гледачы. А пакуль што стваральнікі "Ермака" рыхтуюцца да прэм'еры свайго фільма ў Германіі.

**Іван КАРЭНДА,**
**спецыяльна для "Культуры".**

*Масква*

# НА РАДЗІМЕ БУНІНА НА КУЛЬТУРЫ НЕ ЭКАНОМЯЦЬ

У Маскве прайшлі Дні культуры Арлоўскай вобласці. Менавіта Арлоўшчына дала расійскай культуры цэлы шэраг выдатных постацяў, імёны якіх шырока вядомыя і за межамі краіны. Тут нарадзіліся рускія пісьменнікі І.Тургенеў, М.Ляскоў, І.Бунін, Ф.Цютчаў, А.Фет, М.Прышвін, Л.Андрэеў...

Губернатар Арлоўскай вобласці, старшыня Савета Федэрацыі Ягор Строеў актыўна падтрымлівае намаганні мясцовых культработнікаў. Тут знаходзяць фінансавыя сродкі не толькі на заработную плату, але і на развіццё ўстаноў культуры. У Арле нядаўна адкрыўся новы тэатр, Інстытут культуры і мастацтваў, акадэмія. А ў хуткім часе ў вобласці будзе ўсталяваны помнік былінnаму волату Іллю Мурамцу — на тым самым месцы, дзе ён, згодна з легендай, сустрэўся з Салаўём-Разбойнікам...

**Іван КАРЭНДА,**
**спецыяльна для "Культуры".**

*Масква*

# АДСЮЛЬ, З БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ...

На трох мовах гучалі вершы Гіёма Апалінэра на вечарыне, прысвечанай яго памяці, якая прайшла 11 сакавіка ў абласной бібліятэцы імя А.С.Пушкіна. З цікавасцю слухалі прысутныя аповяд Наталлі Чуевай, дырэктаркі бібліятэкі, пра славянскія, беларускія карані славутага французскага паэта, пра ягонае значэнне ў сусветнай літаратуры. Дапаўняючы яе, пісьменнік Анатоль Вярцінскі расказаў пра лёс двух родзічаў Кастравіцкіх — Гіёма і Каруся Каганца, беларускага адраджэнца пачатку стагоддзя, прачытаў пераклады з Апалінэра. Са сваімі перакладамі пазнаёмілі прысутных таксама Вольга Іпатава і Леанід Дранько-Майсюк. Аб мастацтве паэта распавядаў Яўген Шунейка.

Прыемна ўразіла ўсіх тонкае, артыстычнае чытанне паэзіі Апалінэра дарадчыкам па культуры французскай амбасады ў Беларусі Франсуа Ларанам.

"Вечары ў бібліятэцы імя А.С.Пушкіна набываюць усё большую папулярнасць, а таксама міжнароднае гучанне", — адзначыў адзін з прысутных, вядомы рэжысёр Валерый Мазынскі.

**Наш кар.**

# "...СВЕЧКА"...



най нашай бібліятэцы. "Псалтыр", што выйшаў у Празе, азначаў прарыў "люду паспалітага" да асветы, да святыняў рэлігійнага жыцця. Нездарма пастар Марцінас Мажвідас, які выдаў першую літоўскую кнігу ў 1547 годзе і які, думаецца, ведаў працу свайго папярэдніка, у прадмове да свайго твора напісаў: "Скажыце, ці ёсць нешта больш несправядлівае, чым адлучыць народ ад усіх прыналежных яму святыняў, ад якіх не можа быць адсунуты ніводны чалавек, таму што гэта бяда для душы і вечнага жыцця".

Апавядаючы аб самых значных падзеях у жыцці сябрыны за 1996 год, Ірына Шаблоўская свой артыкул у бюлетэні "Кантакты і дыялогі" № 1 назвала вельмі сімвалічна — "Пакуль гарыць свяча сяброўства". Перспектывы такога сяброўства паміж дзвюма краінамі ёсць, і немалыя. Нездарма ў перадкалядныя дні самы актыўны ўдзел у правядзенні VANOCE — чэшскага раства — прынялі студэнты першага курса аддзялення чэшскай мовы і літаратуры філфака БДУ, якое нарэшце было адкрыта ў Беларусі. Цікава, што печыва для гэтай вечарыны выпякалася па старадаўніх чэшскіх рэцэптах пад кіраўніцтвам жонкі Душана Доскачыла, яго заўсёдняй памочніцы Лілі Доскачылавай, і маладыя нашы хлопцы і дзяўчаты, магчыма, упершыню задумаліся над тым, якую ролю ў нацыянальным адраджэнні адыгрывае сям'я, яе нацыянальныя традыцыі...

Сапраўды, няхай не згасае свечка сяброўства, свечка цеплыні і высокіх памкненняў чалавечага духу...

**Вольга БЕЛЯЗЕКА**



*На здымках: Помнік Францішку Скарыне ў Празе (скульптар Э.Астаф'еў, архітэктар Ю.Казакоў).* ***Фота Э.АСТАФ'ЕВА.*** *Часовы павераны ў справах Чэхіі ў Беларусі Душан Доскачыл і старшыня сябрыны "Беларусь — Чэхія" Ірына Шаблоўская.* ***Фота Г.ЖЫНКОВА.***

# Вераніка ДОЛІНА: "ЯК АДСЕЧАНАЯ РУКА БАЛІЦЬ І НЫЕ Ў МЕСЦЫ ЖЭСТУ..."



ЭКСКЛЮЗІЎ

***У Беларускай дзяржаўнай філармоніі 7 сакавіка адбыўся канцэрт Веранікі Долінай пад назвай "Лёс і кавалеры". Пасля канцэрта я папрасіла даць эксклюзіўнае інтэрв'ю для нашага штотыднёвіка. Яна пагадзілася не адразу, але пасля ўсё ж такі напісала нумар тэлефона сваіх сяброў і адрас свайго часовага месца знаходжання ў Мінску...***

Сапраўды, спеўная паэзія — асаблівае рамяство. І не абавязкова завецца яна бардаўскай, дакладней, класіфікуецца. Існуе ж паэзія вагантаў, паэтаў "Срэбранага веку". Нарэшце, маё пакаленне зачапіў і росквіт "шасцідзесятнікаў"... Ёсць спакуса назваць і любімых аўтараў і іх творы, але пакуль што пацярплю. Вядомая Ганна Ахматава не любіла, калі да яе звярталіся "паэтка". Паэт. І толькі! Вось яна, сапраўдная жаночая салідарнасць: нават і не марыла, што ўзгадаю Ахматаву, калі размова пойдзе пра Вераніку Доліну. А салідарная з імі ў адным: не існуе жаночай паэзіі. Зразумела, калі рыфмаваныя (і не) радкі — паэзія. Існуюць толькі жаночыя хваробы...

Дарэчы, Вераніка Доліна — мая сакрэтная "хвароба". Хачу падкрэсліць, яна ніколі не стаяла ў адным шэрагу з маскоўскімі класічнымі бардамі. Ці проста з сучаснымі паэтамі. Неяк сама па сабе і ненахабна вылучалася. Хаця і даволі жорстка, і ў той жа час залежна ад напалову дзіцячых канонаў рыцарства і куртуазнай любові!

*"Мы не дети Арбата.*
*Мы пришлись на другие года.*
*Нас не пустят обратно.*
*Нас едва-то пустили сюда".*

* * *

Мяркую, што калі я трапіла ў кватэру сп.Валодзіна, дзе спынілася паэт Доліна, то мела погляд-выгляд "гарадскога вар'ята". На што мая трапяткая каляжанка Наталля Овад заўважыла: "... самнамбула самнамбулу вязе". І было ад чаго мець такі выгляд — мае хваляванні былі празмерныя.

А ўвогуле, гіблая справа размаўляць з паэтам пад дыктафон. Вершы — шчырыя адказы Паэта. А інакш і навошта?..

### ПРА МАСТАЦТВА ЖАНОЧАЕ

"Я знаёмая з жаночай творчасцю, як кажуць, "в приглядку". Дарэчы, і адносіны з прадстаўніцамі-творцамі розных жанраў мастацтва ў мяне, чамусьці, не складваюцца.

... Я не лічу сябе аўтарам жаночай паэзіі".

*"О женщина, чьи крылья*
*не жалели!*
*Они намокли и отяжелели...*
*Ты тащишь их с натугой еле-еле,*
*Ты сбросить хочешь их к его*
*ногам..."*

### ПРА ЦЯРПЕННЕ І КРЫЎДЫ

"... Мае хатнія не надта заклапочаныя думкамі пра сэнс гуку і слова. Могуць сказаць усялякае... Раней я на іх крыўдныя словы не рэагавала, а цяпер стала адсочваць іх і крыўдзіцца. Відаць, майму рэзервуару цярплівасці прыйшоў лагічны канец. Між іншым, шкада, бо калі мае блізкія наступаюць мне на ногі, лепш за ўсё не заўважаць гэтага..."

*"Но не кричу, молчу, держусь*
*На этой боли,*
*Хотя божусь, что не гожусь*
*Для этой роли".*

### ПРА НАКАНАВАНАСЦЬ І ІНШАЕ

"... магчыма я не маю дастатковай адукацыі для ўспрымання мастацтва праз колер, форму. У мяне адсутнічае патрэба спасціжэння чагосьці высокага вачыма. Напрыклад: кіно. Кніга дае сапраўдную асалоду.

... апошнім часам жыву прозай Мілана Кундэры. Нават збіралася яму напісаць...

... Паводле знака Задыяка, я — Казярог і ў дастатковай ступені веру ў наканаванасць, якую дасылае космас..."

*"А тонкая материя — твоя-моя*
*душа?*
*Как будто бы мистерия, но очень*
*хороша.*
*То нитку драгоценную меняю*
*на брехню,*
*А то — неполноценную сама себя*
*дразню"...*

### АБ СЯБРАХ І АДЗІНОЦЕ

"Са словам "друг" у мяне ўвогуле дрэнныя адносіны, і яно да мяне аніякага дачынення не мае. Безумоўна, ёсць некаторыя асобы, якіх я люблю... Вось, напрыклад, Міхаіла Валодзіна, з якім знаёмая шмат часу...

... калі чалавек хоць крыху Мастак, то ён павінен умець "харчавацца" чым заўгодна: адзінотай, шанцам, няўдачай... Я мяркую, што ўсё ў жыцці прыносіць карысць...

А хто цяпер не адзінокі?"

*"О, друзья мои, дышащие легко.*
*Вы опять — далеко.*
*Даже если отважусь я на*
*прыжок —*
*Кто постелет внизу лужок?"*

### ПРА РАБСТВА АСАБІСТЫХ ЗВЫЧАК

"Я абсалютна гібкі чалавек і ніколі не мела "капрызаў". У нейкім сэнсе я газападобны чалавек. Жыццё мяне навучыла прымаць форму сасуда.

...дробязей, якія пастаўлены на пэўныя месцы дзеля камфорту ў асяроддзі свайго жыцця, не маю. У мяне не зусім добра жыццё склалася, каб уладкоўваць у ім яшчэ і сябе...

...утульна я адчуваю сябе толькі на сядзенні самалёта, які ляціць, напрыклад, у ЗША. Вось там існуюць мае ўтульныя 13 гадзін...

*"Много-много чего я люблю*
*В разноцветной жизни*
*московской.*
*Я люблю продавцов*
*винно-водочных*
*И болельщика*
*в Лужниках".*

### АБ САМЫМ НАДАКУЧЛІВЫМ ПЫТАННІ ЖУРНАЛІСТАЎ

"... вядома ж: спалучэнне сям'і і сцэны. У сям'і, дзе я нарадзілася, вершы ніхто не пісаў.

... мой брат перакладчык японскай паэзіі, культуролаг. Толькі цяпер ён — адрэзаная луста, жыве ў Японіі.

Сям'я, якую я стварыла, складваецца з некаторай лічбы маіх дзяцей і мужа, які пастаянна здымае фільм...

... можна, зразумела, прамямліць наконт маёй дамавітасці...

Майму старэйшаму сыну дваццаць адзін год, а самаму малодшаму адзін годзік і дзевяць месяцаў.

... Цяпер у мяне ёсць чалавек, які мне дапамагае рабіць "чорную" працу — прыборку ў кватэры. І ёсць чалавек, які выконвае "белую" працу з дзецьмі. Заслужыла..."

*"Мне сын рассказывает сон!*
*Мне, слава Богу, верит он.*
*Я растолкую и пойму,*
*Зачем приснился сон ему".*

### ПРА СПАКУСЫ КАРДЫНАЛЬНА ЗМЯНІЦЬ ЛАД ЖЫЦЦЯ

"... Гаворкі было шмат, толькі такія інтымныя рэчы павінны выспець. Проста ўсё кінуць і з'ехаць на ўзроўні парыву можна. І такое ледзь не здарылася: усё было адрэпеціравана — амаль шлях да трапа самалёта, дзе білет і быў разарваны... А паколькі аднойчы "прэм'ера" не адбылася, а пачуццё псіхалагічнага развітання з самымі блізкімі элементамі жыцця засталося, то і цяпер мне не цяжка думаць і разважаць на тэму ад'езду".

*"Не пускайте поэта в Париж!*
*Он поедет, простудится,*
*сляжет.*
*Кто ему слово доброе скажет?*
*"Кто же тут говорил?" —*
*говоришь".*

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

**P.S.** Паэт, я Вас люблю.

**Фота Наталлі ОВАД**

## КРЫЖАВАНКА "МУЗЫКА"




**Па гарызанталі:**

1. Балет Я.Глебава. 4. Сумеснае гучанне некалькіх гукаў адначасова. 7. Опера М.Мусаргскага. 11. Беларускі кампазітар, аўтар дзіцячых опер. 14. Іспанскі ўдарны музычны інструмент. 18. Князь у аднайменнай оперы Барадзіна. 20. Французскі кампазітар, аўтар аперэты "Дачка мадам Анго". 22. Выкананне музычных твораў на інструментах. 23. Стваральнік музычных і інш. твораў. 24. Муза кахання. 25. Армянскі лірычны жаночы танец. 26. Абазначэнне асобнага музычнага твора. 27. Кіраўнік і дырыжор хору ці аркестра. 28. Песня, якую выконвае Ала Пугачова. 29. Танцавальны музычны спектакль. 30. Самы нізкі па рэгістры медны духавы інструмент.

**Па вертыкалі:**

2. Род вакальнай музыкі, якая перадае дэкламацыю ці бытавую гаворку. 5. Невялікая інструментальная п'еса з песеннай мелодыяй. 6. Частка гукарада, рад суседніх гукаў, аб'яднаных якой-небудзь адзнакай. 8. Граф у оперы "Вяселле Фігаро" Моцарта. 10. Савецкая піяністка і кампазітар. 12. Пераможны кліч. 13. На працягу амаль двух дзесяцігоддзяў ён быў вядучым танцорам Беларускага тэатра оперы і балета. 17. Сусветна прызнаны беларускі балетмайстар. 19. Найпрацейшы ўзмацняльнік гуку. 21. Шып, да якога прымацоўваецца струна.

**Па зігзагу:**

3. Вучэнне аб невялікіх адхіленнях ад тэмпу ў час выканання музычных твораў. 4. Опера Ц.Кюі паводле драмы Гюго. 9. Аўстрыйскі піяніст і кампазітар, аўтар "Школы ігры на фартэпіяна". 15. Песня пастухоў, ранішняя серэнада. 16. Пачуццё (патрэбна і музыканту і слухачу).

**Крыжаванку склала Эмілія МАРЫЧ**



КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 13.03.97. у 15.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 3514
Замова 1459
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**